www.nv-online.info – электронны дадатак да друкаванай версіі газеты «Народная Воля».

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

№ 43 (4295)

29 мая 2018 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

РЕДКИЕ ЛЮДИ

# ФЕРМЕР, который цитирует Шекспира и считает, что у властей не надо ничего просить

### Очень плохая дорога

Мы долго ехали по плохой дороге. То есть вначале я ехал один – из деревни Талька Пуховичского района по сносному асфальту до трассы Минск–Гомель. На съезде с трассы в сторону Лапичей меня встретил руководитель крестьянско-фермерского хозяйства «Весново» Михаил Хивренко, и почти всю оставшуюся дорогу я трясся за его внедорожником по очень плохой гравийке, в просторечии именуемой «гребенкой», глотая дорожную пыль. По пути в какой-то деревне Михаил предложил оставить мою простенькую, но надежную "Дачию" и пересесть к нему. Потому что дальше будет еще хуже: тут часто ходят грузовики, безжалостно разбивая дорогу, отремонтированную для нужд фермерского хозяйства за немалые деньги самого фермера.



### Травы и семена

В конце концов мы все же благополучно добрались до небольшой деревни Рожище, где и расположилась база КФХ «Весново», существующего с 4 октября 1990 года. В распоряжении хозяйства почти 200 гектаров земли, на которых выращиваются злаковые травы. Продукция успешно продается – в основном в Беларуси.

С производством справляются три наемных работника и сам глава фермерского хозяйства. Михаил Хивренко умеет не только «руками водить», но и производить.

Я не сравнивал зарплату наемных работников у фермера и в местном довольно крупном хозяйстве, но помощники Михаила работают у него уже несколько лет и уходить не собираются. А это о многом говорит.

Техники под существующие объемы производства достаточно: семь тракторов МТЗ, два комбайна известной еще с советских времен марки «Дон», правда, произведенные уже в постсоветское время.

– А что, совсем не плохая машина! – считает Михаил.

Есть два небольших грузовичка. Предполагается купить еще и комбайн «Полесье»…

### До того как…

Хозяйство работает достаточно успешно, и в первую очередь потому, что его глава прошел очень неплохую по любым меркам школу. В советские времена Хивренко был трактористом, главным инженером хозяйства, секретарем парткома хозяйства, потом – директором совхоза «Малышковичи» в Климовичском районе Могилевской области. Попутно окончил Белорусский институт механизации сельского хозяйства (теперь – Белорусский государственный аграрный технический университет). В прежние времена там готовили специалистов по двум основным специальностям: «механизация сельского хозяйства» и «электрификация сельского хозяйства». В просторечии это называлось: «инженер Гайкин» и «инженер Пробкин».

Михаил получил специальность «инженера Гайкина», а потом еще в нархозе – диплом экономиста. С таким багажом уже можно было подниматься по карьерной лестнице, по которой в те времена нужно было пройти последовательно все ступеньки. Надо сказать, что Хивренко путь от тракториста до секретаря парткома проделал довольно быстро. Правда, партийная должность удовлетворения не приносила.

– Скучно это! – говорит Михаил. – Идеология, соцсоревнование и прочие такие же «увлекательные» штуки… Дела хотелось!

Не нами сказано: бойтесь желаний – они могут исполниться. Как молодому и перспективному ему предложили руководить одним из трех хозяйств в Климовичском районе – на выбор: два из них крепенькие, с устойчивой экономикой, а третье...

– Как сейчас помню: приехали в эти Малышковичи вечером, дождь, вокруг ни огонька… Грязь по колено! Доползли до местного животноводческого комплекса – а там мычат голодные коровы… А как им не мычать – апрель, корма кончаются, до «зеленки» еще ого-го сколько! И я понял: это то, чего я хочу. Поменять тут все, сделать дело, поднять хозяйство!

…Месяца через четыре появилось ощущение: совершена большая ошибка, изменить что-то в этом лежащем на лопатках хозяйстве выше его сил. Однако обратно в секретари парткома не хотелось. Да и позор: сам же напросился.

Хотя ясного представления, как исправить положение, у Хивренко не было, но он точно знал одно: нужно добиться, чтобы люди начали работать как следует. На том стоял, достигая этого всеми доступными методами. И постепенно дела в совхозе стали налаживаться. Через год хозяйство получило прибыль – 820.000 тогдашних рублей, почти миллион. Правда, на материальном положении работников это практически никак не отразилось, ведь были немалые долги…

*(Окончание на 2-й стр.)*

УВАГА!

## Газета «Народная Воля» і сайт www.nv-online.info – абсалютна розныя інфармацыйныя крыніцы



Хто толькі не заходзіць да нас у "Народную Волю"! І, прызнаемся, даводзіцца задаваць адно і тое ж пытанне: "А ці з'яўляецеся Вы падпісчыкам газеты?" Часта адказ такі: "А я знаёмлюся з матэрыяламі на вашым сайце".

Вымушаны ў чарговы раз патлумачыць: газета "Народная Воля" і наш сайт www.nv-online.info – гэта абсалютна розныя крыніцы інфармацыі. Артыкулы, якія, скажам, друкуюцца ў гэтым нумары, Вы не знойдзеце сёння ў анлайн-дадатку да газеты. Да Вашай увагі прадстаўлены толькі кароценькія анонсы на тры асноўныя публікацыі. Поўныя іх варыянты, як і ўсіх астатніх, з'яўляюцца ў раздзеле "Архіў" праз 10–12 дзён.

Такім чынам, ні ў якім разе нельга абмяжоўвацца толькі праглядам нашага сайта www.nv-online.info. Незалежная газета "Народная Воля" была і застаецца галоўнай крыніцай грамадска-палітычнай інфармацыі. Сайт – гэта ўсяго толькі анлайн-дадатак. Вось чаму рэдакцыя вымушана зноў і зноў тлумачыць, што сайт не з'яўляецца электроннай копіяй друкаванай версіі газеты "Народная Воля". А таму лепш за ўсё падпісацца на яе і атрымліваць кожны нумар непасрэдна дахаты.

Нагадваем: да заканчэння падпіскі на другую палову 2018 года засталося ўсяго некалькі тыдняў. Так, мы не пажартавалі, калі ў адным з мінулых нумароў напісалі, што падпісная кампанія завяршаецца. Час настолькі хутка бяжыць, што не заўважым, як гэтыя тры-чатыры тыдні прамільгнуць. Вось чаму мы просім Вас не адкладваць на больш позні тэрмін, а ўжо ў бліжэйшыя дні наведаць любое паштовае аддзяленне ці спецыялізаваны пункт "Белсаюздруку" і аформіць падпіску на "Народную Волю". Зрабіць гэта можна таксама праз сістэму Адзінай разліковай інфармацыйнай прасторы (АРІП) альбо праз сайт www.belpressa.by і наш сайт www.nv-online.info. Індэкс для індывідуальных падпісчыкаў – **63222**, для прадпрыемстваў і арганізацый – **632222**.

**Вы – з «Народнай Воляй», «Народная Воля» – з Вамі!**

СТАТЫСТЫКА

## Заробкі падаюць

Сярэдні заробак у Беларусі ў красавіку склаў 921 рубель, паведаміў Белстат. У сакавіку ён раўняўся 926,8 рубля.

Прычым ва ўсіх абласцях краіны сярэднія заробкі ў красавіку выраслі. У Брэсцкай вобласці – да 794 рублёў, Віцебскай вобласці – да 764,8, Гомельскай – да 836,1, Гродзенскай – да 794,6, Мінскай – да 922, Магілёўскай – да 775,7 рубля .

А вось у Мінску зарплаты ў мінулым месяцы ўпалі да 1275,3 рубля. У сакавіку сталічных жыхары ў сярэднім зараблялі 1364,9 рубля.

**Ігар ЗАЛЕСКІ.**

ЁСЦЬ ПЫТАННЕ!

## Калі будуць судзіць Юрыя Палітыку?

Новая дата судовага пасяджэння ў Чарнігаве па справе беларуса Юрыя Палітыкі, абвінавачанага Украінай у шпіянажы, пакуль не вядома, паведаміў начальнік упраўлення інфармацыі МЗС **Андрэй Шупляк.**

Паводле слоў Шупляка, беларускі консул сустракаўся з Палітыкай 15 мая. Скаргаў ад затрыманага беларуса не паступіла.

Як паведамлялася, Юрый Палітыка быў затрыманы СБУ 16 чэрвеня 2017 года ў аўтобусе Чарнігаў–Гомель у пункце пропуску "Новыя Ярылавічы" Чарнігаўскага памежнага атрада.

ЧУЛІ?

## У Талін – самалётам

Міністр замежных спраў Эстоніі **Свэн Міксер** 14 чэрвеня наведае Беларусь. Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Беларусі ў Эстоніі **Анатоль Сцепусь** паведаміў, што падчас візіту ў цэнтры ўвагі будуць тэмы пашырэння эканамічнага ўзаемадзеяння паміж нашымі краінамі, у тым ліку і пытанні падрыхтоўкі візіту ў Мінск прэм'ер-міністра Эстоніі, які, як мяркуецца, адбудзецца восенню.

Таксама на парадку дня 14 чэрвеня будзе пытанне наладжвання прамых авіярэйсаў паміж беларускай і эстонскай сталіцамі. Чакаецца падпісанне адпаведнага дакумента. Плануецца, што авіярэйс па маршруце Талін–Мінск–Талін будзе ажыццяўляць эстонская авіякампанія.

ЗДАРЭННЕ



Такі выгляд мае БМВ пасля сутыкнення з мачтай асвятлення ў раёне сталічнага праспекта Дзяржынскага і вуліцы Шчорса. 31-гадовага пасажыра выратавальнікі вызвалялі пры дапамозе спецыяльнага інструмента, з траўмамі рознай цяжкасці ён дастаўлены ў бальніцу. Пацярпеў і вадзіцель. Паводле слоў супрацоўнікаў ДАІ, "у яго былі яўныя прыкметы алкагольнага ап'янення".

**Фота ДАІ Мінска.**

СТАЛІЦА

## Сацыяльны дом на сродкі кітайцаў

Хутка ў Мінску будзе пабудаваны дом на 80 сацыяльных кватэр. На яго ўзвядзенне пойдуць сродкі тэхніка-эканамічнай дапамогі Кітая.

Пляцоўка для шматпавярховіка выбрана ў межах вуліц Шаранговіча–Гарэцкага.

**Зоя КУЖАЛЁВА.**

НУ І НУ!

## Адмовілі...

Віцебскія ідэолагі адмовілі прадстаўнікам грамадскасці ў перайменаванні абласной бібліятэкі імя **Леніна** ў гонар **Францішка Скарыны**.

Адказ ініцыятарам – пад петыцыяй у інтэрнэце было сабрана больш за паўтысячы подпісаў – з Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай працы, культуры і па справах моладзі змясціў на сваёй старонцы ў сацыяльных сетках блогер **Антон Матолька**.

*"Пытанне аб перайменаванні Віцебскай абласной бібліятэкі імя У.І.Леніна патрабуе дэталёвай прапрацоўкі і вывучэння грамадскага меркавання, **паколькі такія дзеянні могуць выклікаць негатыўную рэакцыю ў часткі насельніцтва**"*, – адзначаецца ў дакуменце. Чыноўнікі пішуць, што *"ў выпадку прыняцця станоўчага рашэння па дадзеным пытанні наданне імя ўсходнеславянскага першадрукара Францыска Скарыны дарэчна было б прымеркаваць да якой-небудзь знакавай даты ці юбілею"*. Пры гэтым ідэолагі ведаюць, што сёлета юбілейных дат няма (500-годдзе беларускага кнігадруку адзначылі ў 2017-м). А пакольккі для перайменавання патрэбныя сродкі, яны лічаць *"гэтую прапанову на цяперашні час немэтазгоднай"*.






ФОТАФАКТ

## Увекавечылі кінагерояў



У Гродне на скрыжаванні вуліц Дзяржынскага і Курчатава ўсталявалі драўляныя скульптуры герояў фільма «Белыя Росы»: Фядоса Ходаса (акцёр Усевалад Санаеў) і яго суседа Цімафея (акцёр Барыс Новікаў). У скульптурную кампазіцыю ўключылі і сабаку па мянушцы Валет.

Фільм «Белыя Росы» здымаўся ў 1983 годзе ў Гродне ў мікраёнах "Пярэселка" і "Дзевятоўка".

ПАД ГРАДУСАМ

## Грэйцеся – пахаладае

Сёння, у аўторак, і заўтра, у сераду, у Беларусі будзе яшчэ вельмі горача. Удзень да +24…+30°С, пры гэтым у сераду ў асобных раёнах – навальніцы.

У чацвер 31 мая пачне паступаць больш халоднае надвор'е. Удзень чакаецца +17°С па паўночным усходзе, да +28°С па Брэстчыне.

У пятніцу 1 чэрвеня ўначы будзе ад +3°С па поўначы, да +11°С на поўдні краіны, у асобных раёнах на глебе слабыя замаразкі да -2°С.

Днём прагназуецца +14…+20°С, толькі па паўднёвым захадзе паветра прагрэецца да +22°С.

РЕДКИЕ ЛЮДИ

# ФЕРМЕР, который цитирует Шекспира и считает, что у властей не надо ничего просить

*(Окочание. Начало на 1-й стр.)*

### Бригадный подряд

Дальше – больше. Попробовал модный в 1980-е годы бригадный подряд. Эх, вспоминает Хивренко, золотое время! С отчетностью было проще: какую бумагу сам составил – ту и приняли. Главное – не тяни себе в карман и получай прибыль.

А еще директор совхоза не боялся внедрять новые, непривычные методы хозяйствования. Например, семья попросила в аренду ферму на 400 голов. Взяли, поскольку почувствовали возможность заработать. И почти сразу начали получать килограммовые привесы. И заработки – аванс ежемесячно 500 рублей каждому, по тем временам очень хорошие деньги.

Механизаторы тоже стали хорошо зарабатывать, а следовательно – хорошо работать.

А задача директора была грамотно организовать работу, в полной мере использовать потенциал работников, среди которых были разные люди, в том числе не без весьма распространенного греха…

Вот характерная история. На животноводческом комплексе работал скотник – пил по-черному. И товарищеский суд его не раз судил, и на 15 суток он попадал, и на принудительное лечение от алкоголизма... В общем, никакого шанса у него в этой жизни вроде не было. А Хивренко предложил ему взять в аренду сарай для телят, которых с 20 дней забирали от коров и держали там до 6 месяцев. Пропойца согласился. И дело пошло: никакого падежа, хорошие привесы… Мужик начал зарабатывать немалые деньги, получил дом, построенный по чернобыльской программе, обставил его… Когда требовалось забить бычка на мясо, вспоминает Михаил, отдавал со слезами на глазах… Болел за дело, как за кровное!

### Не собственное

Это были уже 1990-е. И все было «как собственное», но не собственное. И директор совхоза «Малышковичи» Михаил Хивренко лучше, чем кто, понимал: колхозы и совхозы – структуры мало того что неэффективные, так еще и несправедливые. Руководитель, его шофер и несколько специалистов жили неплохо. Остальные перспектив не имели.

А тут грянули перемены, партийные органы канули в Лету. Нужно было думать, как жить дальше

И, как когда-то с совхозом «Малышковичи», Михаил решительно шагнул в неизвестность. Написал заявление об уходе, отработал два полагающихся месяца и в один прекрасный день не вышел на работу, не поддаваясь ни на какие уговоры.

С большим трудом получил 129 гектаров земли под фермерское хозяйство. В те годы тем, кто хотел самостоятельно хозяйствовать на земле, все давалось очень непросто. На самом высоком уровне разглагольствовали о том, что страна к фермерству не готова – мол, у нас еще не разработана мини-техника… Так тогдашние руководители государства представляли себе фермерское хозяйство.

При чем здесь мини-техника?! Фермеры работают сегодня на мощнейших американских John Deere, а мини-техника нужна разве что для дачников.

### Начало

Начали с того, что сеяли гречиху и картошку. Гречиха удалась – 28 центнеров с гектара! А картошка – вообще «золотое дно»! Вокруг воинские части советской еще армии. Солдат нужно кормить. И ни о каких изысках речи не шло: привез в воинскую часть картошку (естественно, нефасованную, навалом) – прапорщик счастлив! Осенняя картошка стоила по тем временам 10 копеек за килограмм, а ранняя – 2 рубля! Михаил занимался именно ранней картошкой…

Уже в 1991 году на счету хозяйства было около 400.000 рублей. Трактор тогда стоил 10.000 рублей.

Потом занялись пшеницей. А затем перешли на злаковые травы, чем хозяйство занимается по сей день.

### Немного из Шекспира

Конечно, не все было просто. Там, где сегодня хорошо возделанные поля, было, по сути, болото. И, как шутит Михаил Хивренко, комары были такие огромные и злющие, что едва не прокусывали фуфайку…

Много сил и средств потребовалось, чтобы облагородить землю, которая до сих пор как бы своя, но не своя. И в этом Михаил видит главную проблему. Поэтому он скептически относится к Белорусскому общественному объединению фермеров (БООФ).

– Организация, которая настроена на то, чтобы клянчить подачки у государства, меня не устраивает. А фермеры у нас нужны только для того, чтобы время от времени демонстрировать: мол, у нас все, как у людей, даже фермеры есть… Стыдно что-то просить у этой власти, равно как и стыдно быть богатым в этой стране, где так много бедных, – говорит Михаил Хивренко.

И неожиданно цитирует 66-й сонет Шекспира в переводе Бориса Пастернака:

*Измучась всем, я умереть хочу.*
*Тоска смотреть, как мается бедняк,*
*И как шутя живется богачу,*
*И доверять, и попадать впросак,*
*И наблюдать, как наглость лезет в свет,*
*И честь девичья катится ко дну,*
*И знать, что ходу совершенствам нет,*
*И видеть мощь у немощи в плену.*

Согласитесь, когда один из сонетов Шекспира (именно в переводе Пастернака, а никак не Маршака) тебе цитирует белорусский фермер в Осиповичском районе, это несколько… неожиданно. Чтобы уж совсем не упасть в грязь лицом, пришлось поднапрячь память и процитировать самого Пастернака: «Быть знаменитым некрасиво, не это поднимает ввысь…»

Михаил Хивренко вежливо выслушал, а потом… высказал несколько замечаний по коекаким положениям моего учебника «Профессиональная этика журналиста», изданного в 2014 году. Такой вот фермер – одинаково свободно рассуждает о раскислении почв, цитирует Шекспира и критически осмысливает учебник по журналистике…

Мы еще долго беседовали о несовершенстве БООФ, об интеллектуалах, которых, по мнению Михаила Хивренко, среди фермеров немало, хотя хотелось бы больше, о том, что не нужно ничего просить, а нужно все делать самому. Собственно, он всю жизнь этим и занимается, благодаря чему выжил в трудные годы, создал свое успешное хозяйство. Только вот свое ли? Земля собственностью не является, и в этом фермер видит большое жульничество.

…Потом пили чай, любуясь замечательными видами, которые открывались из дома, стоящего на окраине деревни Рожище.

**Анатолий ГУЛЯЕВ.**
*д.Рожище Осиповичского района.*

ИЗ ПЕРВЫХ УСТ

## Анатолий БОГОВИК: «Я оставлю это без комментариев…»

*Так коротко сказал о своем выходе на свободу бывший исполнительный директор «Беларусбанка» **Анатолий Боговик**, приговоренный осенью минувшего года к 8 годам колонии.*

Анатолия Боговика в банковской сфере считают грамотным специалистом. Он известен тем, что активно продвигал и популяризировал безналичные расчеты. До того как в 2014 году стал исполнительным директором банка, он много лет возглавлял расчетный центр банковских пластиковых карт «Беларусбанка».

Анатолий Анатольевич не стал распространяться о том, писал ли он прошение о помиловании на имя Александра Лукашенко. Однако без участия главы государства этот вопрос вряд ли решился бы.

По закону осужденный должен лично подать прошение о помиловании. Сделать это можно лишь после вступления приговора суда в силу. В Положении о порядке осуществления помилования осужденных сказано, что при рассмотрении ходатайств принимается во внимание не только тяжесть и степень общественной опасности совершенного преступления, но и «*личность осужденного, его поведение, отношение к труду, участие в работе самодеятельных организаций в местах лишения свободы, срок отбытого наказания, возмещение имущественного и морального вреда, причиненного преступлением, уплата дохода, полученного преступным путем, и другие заслуживающие внимания обстоятельства*».

Кстати, списки тех, кого помиловал глава государства, нигде не публикуются. Хотя, казалось бы, какая тут может быть тайна? Наоборот, пусть бы люди знали, какой у нас милосердный президент и кого он милует! Пока лишь в прессу попадают самые резонансные истории о помиловании, и все они, как правило, связаны с теми, кто был осужден за коррупционные преступления.

«*Я доподлинно не знаю, чем руководствуется президент и его подчиненные, которые решили засекретить данные о помиловании*, – говорит бывший судья, а ныне председатель юридической комиссии РОО «Белорусский Хельсинкский комитет» **Гарри Погоняйло**. – *Должно быть четко прописано, какими критериями руководствуется и комиссия по вопросам помилования, и президент при рассмотрении прошений. А так складывается впечатление, что глава государства милует тех, кого он же в свое время пестовал и назначал на должности, кто смог, как говорится, откупиться и погасить причиненный ущерб. Общество не знает о результатах работы комиссии по помилованию, хотя это государственная структура и граждане, в соответствии с Конституцией, имеют право получать информацию о ее работе.*

*Мы пробовали добиваться прозрачности работы этой структуры, но пока, к сожалению, безрезультатно*».

Решение президента об освобождении лица от уголовной ответственности принимается в форме указа, который в трехдневный срок с момента его издания направляется генпрокурору для исполнения. При этом в Положении о порядке осуществления помилования ничего не говорится о том, что данные указы – секретные.

ПОИМЕННО

### Они решают, кого помиловать, а кого…

Комиссию по вопросам помилования при президенте возглавляет замглавы Администрации президента **Валерий Мицкевич**. В состав комиссии входят также начальник главного управления по взаимоотношениям с органами законодательной и судебной власти, вопросам гражданства и помилования Администрации президента **Жанна Тищенко**, заместитель директора по научно-методической работе Института переподготовки и повышения квалификации судей, работников прокуратуры, судов и учреждений юстиции БГУ **Александр Барков**, судья Конституционного суда **Леонид Рябцев**, заслуженный юрист Республики Беларусь **Людмила Михалькова**, председатель Республиканской коллегии адвокатов **Виктор Чайчиц.**

В состав Комиссии по помилованию входят также председатель Верховного суда, генеральный прокурор, председатель Следственного комитета, министр внутренних дел, министр юстиции и председатель Комитета государственной безопасности.

**Марина КОКТЫШ.**

СТАТЫСТЫКА

### Кожны пяты – непаўналетні

*Дзеці складаюць 19% ад усяго насельніцтва Беларусі. Гэта каля 1,8 млн чалавек.*

ДОСЛОВНО

## Игорь ЛЯШЕНКО, председатель концерна «Белнефтехим»:

– С *учетом сегодняшней стоимости барреля предстоит повышение цен на автомобильное топливо, но, повторюсь, это будет идти синхронно с Российской Федерацией, практически на 24 процента.*

КОМПЕТЕНТНО

## Дмитрий ИВАНОВИЧ, независимый экономист: «То, что цены на топливо надо повышать, – это данность»

*Интересное дело. Когда нефть в мире дешевела, а в Беларуси цены на топливо оставались прежними, наши чиновники находили этому массу объяснений. Теперь же, когда цена на нефть пошла вверх, вдруг оказалось, что цены на бензин напрямую зависят от этого, и белорусов сразу предупредили о 24%-ном (!) повышении. Насколько оправданно заявление о необходимости так ощутимо для населения повысить цены на бензин?*

*За комментарием мы обратились к независимому экономисту, эксперту проекта «Кошт урада» **Дмитрию ИВАНОВИЧУ**.*

– Эту ситуацию надо разделить на две составляющие, – поясняет экономист. – Первая – это по какой цене нефть приходит в Республику Беларусь, поскольку для нефтеперерабатывающих заводов, для себестоимости производства бензина эта цена крайне влиятельна. И второй фактор – акцизная политика государства, т.е. те налоги, которые закладываются в цену топлива и которые служат важным источником доходов республиканского бюджета. Россия, например, сейчас меняет акцизную политику, уменьшает размеры акцизов для сдерживания роста цен на автомобильное топливо. У нас же акцизы – одна из главных статей наполнения бюджета. И если мы снизим цены за бензин за счет акцизов, начнет страдать бюджет, а это значит, что зарплаты учителей, врачей, воспитателей, соцработников и т.д. не смогут быть повышены. В Беларуси в отличие от России поле для маневра очень узкое. В России за счет налога на добычу полезных ископаемых, за счет того, что она нефтедобывающая страна, деньги сейчас льются рекой. В Беларуси этого нет.

**– А когда цена на нефть падала?**

– «Белнефтехим» старался этого не замечать… Но сейчас мы имеем то, что имеем. Мировые цены на нефть растут, и это будет сказываться на работе наших нефтеперерабатывающих заводов, на конечной цене бензина.

Кроме того, есть еще один очень негативный момент: в этом году белорусская нефтепереработка сработала в убыток. Дело в том, что наши НПЗ (особенно это касается «Нафтана») продают топливо на внутренний рынок. А когда акцизы фиксированы, цены на топливо на АЗС стабильны, а затраты на производство растут, предприятие начинает работать в минус. Это и произошло в первом квартале этого года. Неоднократный рост цены на бензин на 1 копейку ситуацию не менял. Нефтеперерабатывающая промышленность оказалась самой убыточной отраслью. И мои прогнозы, что из минуса нефтепереработка не вышла и по итогам работы в апреле (этой статистики пока еще нет). Кроме того, не надо забывать, что нефтеперерабатывающие заводы еще не закончили модернизацию своего производства для улучшения качества нефтепродуктов.

То есть ситуация, как говорится, из двух зол. С одной стороны, растут цены на нефть, с другой – если начнем корректировать акцизы в сторону снижения, у нас просядут доходы бюджета.

**– Акцизы на топливо у нас большие?**

– Существенные. Размер акциза зависит от вида топлива и взимается с каждой тонны реализованного продукта. В России, например, акцизы плюс налоги составляют 65% стоимости топлива. У нас таких точных цифр никто не приводил.

Ставки акцизов на топливо, алкоголь, табак меняются в Беларуси раз в полгода. Очередное повышение должно быть с 1 июля, и что будет делать правительство с акцизами на топливо – это большой вопрос.

**– Дмитрий, на ваш взгляд, 24 процента – это то повышение, которое сейчас просто необходимо, чтобы спасти нефтеперерабатывающую отрасль? Почему не 20 или не 25?**

– Мне сложно сказать, какой процент обоснования правильный. Не надо забывать, что нефтеперерабатывающая отрасль еще получает доход от экспорта нефтепродуктов. А сегодня работать на экспорт даже с учетом налогов и т.д. выгоднее, чем продавать нефтепродукты на внутренний рынок.

Но то, что цены на топливо надо повышать, – это данность. Просто мы не привыкли, что у нас цена варьируется в зависимости от того, как меняется цена на нефть на мировом рынке. У нас есть фиксированная цена, и больше нас ничего не волнует. На самом деле в любой нормальной стране, как только происходят существенные корректировки цены на нефть, тут же меняется цена на топливо.

**Ольга ГРИНЕВИЦКАЯ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Генадзь ФЯДЫНІЧ: «Трэба прачытаць 11 тамоў»

Нагадаем, што Следчы камітэт абвінавачвае кіраўніка незалежнага прафсаюза РЭП **Генадзя Фядыніча** і бухгалтара **Ігара Комліка ў** нясплаце падаткаў. Ім пагражае абмежаванне волі на тэрмін да 5 гадоў або пазбаўленне волі на тэрмін ад 3 да 7 гадоў з канфіскацыяй маёмасці або без яе.

Тым часам Генадзь Фядыніч распавёў, што практычна кожны дзень ён ходзіць у Следчы камітэт і па некалькі гадзін знаёміцца са справай, якая *складаецца з 11 тамоў.*

*"У кожным томе – больш за 300 старонак, – кажа Генадзь Фёдаравіч. – Тэрмін азнаямлення – да 8 чэрвеня. Пасля гэтага справа пойдзе ў пракуратуру, а далей – у суд. Пакуль пазнаёмлюся з паловай матэрыялаў, два тамы складаюць толькі розныя экспертызы. Забралі нашы камп'ютары, флэшкі, аналізавалі нешта… Дарэчы, калі вы ўжо зрабілі экспертызу, калі расследаванне скончана, то чаму гэтую тэхніку нам не вяртаеце? Навошта ўскладняеце працу прафсаюза?"*

На думку Фядыніча, суд можа адбыцца ўжо напрыканцы наступнага месяца альбо ў ліпені.

А вось **Ігар Комлік** дадае, што збіраецца падаваць заяву ў пракуратуру Цэнтральнага раёна Мінска, з тым каб распачалі крымінальную справу ў дачыненні да паклёпнікаў.

*"На адным з сайтаў напісалі пра нас з Генадзем Фядынічам абсалютна няпраўдзіва, гэта самы натуральны паклёп,* – кажа бухгалтар прафсаюза РЭП. – *Няхай зараз пракуратура разбіраецца..."*

**Сяргей НІКАНОРАЎ.**

БЛІЦ-КАМЕНТАРЫЙ

## Сяргей ДУБІНА, начальнік упраўлення аўтамабільнага і гарадскога пасажырскага транспарту Мінтранса: «Мы пайшлі насустрач «нерэгулярршчыкам»

Як паведамлялася, Міністэрства транспарту і камунікацый прапануе да канца 2018 года адмяніць конкурс для пасажырскіх аўтаперавозчыкаў, што ажыццяўляюць рэгулярныя рэйсы. Гэта прадугледжана праектам указа "Аб некаторых пытаннях ажыццяўлення міжгародніх аўтамабільных перавозак пасажыраў", які распрацаваны ў ведамстве і які мусіць ухваліць кіраўнік дзяржавы..

З пытаннем, як гэты ўказ, калі будзе падпісаны, паспрыяе вырашэнню "крызісу маршрутчыкаў", які ўзнік на пачатку года ў сувязі з новымі правіламі пасажырскіх перавозак, мы звярнуліся да **Сяргея Дубіны** – начальніка ўпраўлення аўтамабільнага і гарадскога пасажырскага транспарту Мінтранса.

**– Як вядома, у лютым шматлікія перавозчыкі не выйшлі на маршруты. Пазней адна частка нерэгулярных перавозчыкаў пагадзілася працаваць згодна з новымі правіламі, другая працу не аднавіла, а прапанавала сесці за стол перамоў.**

– "Нерэгулярршчыкі", для таго каб спакойна ўвайсці на рынак рэгулярных перавозак, прасілі некаторыя паслабленні, спрошчаную працэдуру, – тлумачыць Сяргей Дубіна. – Мы пайшлі ім насустрач. Калі ўказ будзе падпісаны, "нерэгулярршчыкі" да канца года змогуць без конкурсу заключаць дамовы на ажыццяўленне перавозак пасажыраў па рэгулярных маршрутах. Ім дастаткова будзе аформіць усе неабходныя дакументы і паехаць. А далей ужо на рынку застануцца мацнейшыя.

**– Гэта значыць, што ў наступным годзе конкурс будзе?**

– Калі не будзе іншых нарматыўных дакументаў, то так, з новага года конкурс застаецца.

**– А як ён будзе адбывацца?**

– Любы маршрут падзелены на лоты, і аператар вызначае, хто і калі будзе выконваць аўтамабільныя перавозкі пасажыраў. Бо прыватнік можа прыйсці на маршрут з адной машынай, а для задавальнення попыту на дадзеным маршруце неабходна 15 машын у дзень... Можа быць і так, калі перавозчыку, які задзейнічаны на выгадным маршруце, будзе прапаноўвацца і адзін дадатковы, які нясе сацыяльную нагрузку.

**– Сяргей Станіслававіч, калі ўвялі новыя правілы, Мінтранс заяўляў, што за часовым дазволам на выкананне рэгулярных міжгародніх перавозак пасажыраў сталі актыўна звяртацца «нерэгулярршчыкі». Апошні раз паведамлялася аб тым, што пададзена 138 заяў, заключана 25 дамоў. А як цяпер?**

– Заключана 101 дамова па 62 маршрутах. Гэта нядрэнна з улікам таго, што на рынак прыйшло дадаткова 388 адзінак рухомага саставу. Пасля ўступлення ў сілу змен у закон "Аб аўтамабільным транспарце і аўтамабільных перавозках" колькасць транспарту прыватнікаў павялічылася больш як у 2 разы. Раней на рэгулярныя міжгароднія маршруты выходзіла каля 300 машын, а зараз плюс яшчэ 388 маршрутак.

**– Ці ўсе "нерэгулярршчыкі" змірыліся з тым, што трэба працаваць па новых правілах?**

– Некаторыя чагосьці чакаюць.

**– Гэта значыць працуюць незаконна? Вы адсочваеце такія выпадкі?**

– Напэўна, нехта працягвае ажыццяўляць нерэгулярныя перавозкі. Наколькі гэта законна? Высвятляць такія факты – не функцыя Мінтранса, для гэтага ёсць падатковыя органы, якія павінны сачыць за тым, як афармляюцца міжгароднія перавозкі пасажыраў.

**Марыя ЭЙСМАНТ.**

У СУСЕДЗЯЎ

### Сярэдні заробак у Літве вырас да 895 еўра

Гэта налічаныя заробкі, "чыстымі" нашы суседзі ў сярэднім атрымліваюць каля 700 еўра.

Што тычыцца сярэдняй налічанай зарплаты, то ў першым квартале 2018 года ў дзяржаўным сектары Літвы яна складала 885,2 еўра, у прыватным – 900 еўра.

Паводле дадзеных Дэпартамента статыстыкі, у параўнанні з IV кварталам 2017 г. сярэдні заробак у Літве павялічыўся на 1,2%, у дзяржсектары знізіўся на 2,4%, у прыватным павялічыўся на 3%.

## Протаіерэй Ігар ДРАЖЫН:

# «Па канонах РПЦ любая царква ў незалежнай дзяржаве можа прэтэндаваць на атрыманне аўтакефаліі»

*Настаяцеля сабора Усіх беларускіх святых у вёсцы Любань Вілейскага раёна протаіерэя **Ігара Дражына** рэдка можна застаць на месцы. Апрача святарскіх у яго безліч розных грамадскіх абавязкаў. Ён можа правесці захапляльную экскурсію па Вілейшчыне, зладзіць у мясцовай школе сустрэчу з беларускімі пісьменнікамі, арганізаваць верніцкую талаку. А яшчэ ён бацька шасцярых дзяцей, якіх гадуе з матушкай Яўгеніяй.*

*Сваімі святарскімі, грамадскімі і сямейнымі клопатамі айцец Ігар падзяліўся з чытачамі "Народнай Волі".*

**– Ойча Ігар, нядаўна мінскі актывіст арганізацыі "Русь молодая" Аляксандр Бабук паскардзіўся патрыярху Маскоўскаму на "гвалтоўную беларусізацыю" праваслаўя ў Гродне, а таксама раскрытыкаваў старшыню Сінадальнага інфармацыйнага аддзела БПЦ айца Сергія Лепіна за выступленне на святкаванні 100-годдзя БНР. Як вы лічыце, чаму "Румол" так пільна стаў прыглядацца да дзейнасці беларускіх святароў?**

– Да выступлення на Дні Волі айца Сергія Лепіна беларускае святарства было практычна бязмоўным і расійскім шавіністам, відаць, здавалася безаблічным балотам. Але пасля 25 Сакавіка айцец Сергій атрымаў вялікую падтрымку ад святароў і вернікаў. Паколькі тая падтрымка была нечакана масавай і выклікала безліч каментарыяў у сацыяльных сетках, "Румол" вырашыў інфармацыйнай атакай і гучнымі крыкамі запалохаць святароў і спыніць памкненне беларускага грамадства да нацыянальнага адраджэння.



**– У вёсцы Любань на Вілейшчыне вы ўсталявалі вялікі (6 метраў у вышыню) Еўфрасіннеўскі крыж. Звычайна крыжы ўсталёўваюцца на скрыжаваннях дарог. Ваш – проста пры дарозе. Чаму вы абралі такое незвычайнае месца?**

– Гэта так званы паклонны крыж. Паклонныя крыжы ўсталёўваюцца пераважна пры храмах талакой вернікаў. А прыхаджане нашай царквы, якая асвечана ў гонар Усіх беларускіх святых, выказалі ідэю такім чынам ушанаваць Сабор навамучанікаў і вызнаўцаў веры праваслаўнай. Хто такія навамучанікі? Расстраляныя за веру ў гады савецкай улады, тыя, хто жадаў добрай долі для Беларусі. Іх таксама можна лічыць калі не святымі, дык праведнікамі. За свае перакананні, а часам проста з-за паклёпніцкіх даносаў яны загінулі – хто ў ГУЛАГу, хто на высылцы ў казахстанскіх стэпах, хто ў сібірскай тайзе, хтосьці быў расстраляны ў Беларусі. І мы з дабраславення епіскапа Маладзечанскага і Стаўбцоўскага Паўла ўсталявалі наш крыж у памяць гэтых людзей. Зразумела, што ён мусіў быць асаблівым, незвычайным. Для беларусаў вобраз Еўфрасіннеўскага крыжа ўжо звыклы. А вось увагу прыязджаючых ён, вядома ж, прыцягвае. Пры дарозе – якраз адпаведнае месца.

**– На крыжы надпісы зроблены па-беларуску. Нават з дарогі можна прачытаць: "Дабраславі, Божа, краіну нашу – святую Беларусь". Свае пропаведзі вы таксама прамаўляеце на беларускай мове. Гэта для вас і вашых прыхаджан важна?**

– Мяркую, што гэта важна для ўсіх – і для прыхаджан (прычым не толькі нашай царквы), і для ўсёй грамадскай супольнасці Беларусі, бо мова аб'ядноўвае. Таксама і мова набажэнства, я лічу, павінна быць зразумелай. Беларускамоўныя надпісы на крыжы ўзгоднены з прыхаджанамі, але гэта яшчэ і маё асабістае пажаданне, каб тыя, хто зверне на іх увагу, памяталі, хто яны ў гэтым свеце і на гэтай зямлі.

**– Ведаю, што вы самі спрабуеце перакладаць некаторыя богаслужбовыя тэксты. Але ўжо гадоў дваццаць пры Беларускім Экзархаце працуе адмысловая Біблейская перакладная камісія…**

– Біблейская камісія працуе, правяраючы і ўзгадняючы з першакрыніцай кожнае слова. Гэта патрабуе шмат часу. За больш як дваццаць гадоў камісіяй зроблена вялікая праца. Але і сёння для набажэнства па-беларуску святарам не хапае Апостальскіх чытанняў і Службоўніка. Маючы жаданне маліцца на роднай мове, я сутыкнуўся з такой праблемай. Скажам, тэксты, якія чуюць прыхаджане, – на беларускай мове, а асобныя малітвы (мы іх называем "таемныя святарскія") – на царкоўнаславянскай. Таму падчас набажэнства адбывалася блытаніна. Каб пазбавіцца яе, я і пачаў перакладаць. Мне дапамагалі і знаёмыя настаўнікі, і філолагі, і мае дзеці. Але пераклад не спадабаўся Біблейскай камісіі. Як выявілася, у нас розныя падыходы. Камісія імкнецца ў некаторых выпадках захаваць царкоўнаславянізмы і русізмы, а я стараўся іх пазбягаць.

**– У надпісе на любанскім крыжы ўжыта слова "дабраславі", а ў перакладах Біблейскай камісіі захавана "благаславі". Вы маеце на ўвазе падобныя выпадкі?**

– Так, Біблейская камісія асабліва выступала супраць "дабраславення". У свой час з ёю супрацоўнічаў вядомы перакладчык Васіль Сёмуха, які ў сваім перакладзе таксама адстойваў формы "дабраславіць" і "дабрадаць". Камісія і з ім не пагадзілася. У выніку Сёмуха выйшаў з яе і завяршыў свой пераклад Бібліі самастойна. Я звярнуўся і да іншых перакладаў, напрыклад – Антонія Бокуна, пацікавіўся, наколькі шырока ўжываюцца словы "дабраславіць" і "дабрадаць" у сучаснай беларускай літаратуры. І прыйшоў да высновы, што яны маюць права на існаванне. На жаль, прадстаўнікі Біблейскай камісіі лічаць інакш.

**– Існуе, калі не памыляюся, пяць перакладаў Бібліі на беларускую мову. Які з іх вам найбліжэй?**

– Пераклад Антонія Бокуна. Але ў мяне на паліцы стаіць і пераклад Сёмухі, які я час ад часу перачытваю. Я ведаю, што прэтэнзіі былі да ўсіх перакладаў. Айцец Сергій Гардун – старшыня Біблейскай камісіі – недапушчальным лічыць ужыванне дыялектызмаў, паланізмаў і новых слоў. Але сама Біблейская камісія ў некаторых выпадках спрасціла сэнс біблейскага тэксту, напоўніўшы яго царкоўнаславянізмамі, архаізмамі і русізмамі.

**– Руская праваслаўная царква неаднойчы заяўляла пра намер кананізаваць мітрапаліта Іосіфа Сямашку, які праславіўся змаганнем з уніяцкай царквой. Усё ж для Беларусі ён асоба неадназначная.**

– Хоць з гледзішча РПЦ Сямашка – безумоўна, герой і вялікі царкоўны дзеяч. Мы ж павінны не толькі памятаць пра факт аб'яднання ўніятаў з праваслаўнымі, але і якімі метадамі тое аб'яднанне дасягалася. Паводле архіўных дадзеных, метады нярэдка былі нехрысціянскімі. Усё рабілася праз гвалт і прымус. Тагачасны магілёўскі губернатар успамінаў, як царкоўны камітэт (дзесяць чалавек) звярнуўся да яго з просьбай пакінуць ім уніяцкага святара. І губернатар, як ён сам піша, загадаў пакласці просьбітаў на зямлю і біць сукаватымі кіямі. Білі да той пары, пакуль не паказаліся вантробы… Але закатаваныя не адмовіліся ад сваёй веры. І падобных выпадкаў былі тысячы. Хіба ж гэта па-хрысціянску? Нават пры царскай уладзе не было памкненняў кананізаваць мітрапаліта Сямашку. А яшчэ мы павінны памятаць, што пры ім была ліквідавана назва "Беларусь" і з'явілася безаблічная "Северо-Западный край", дзе, як вы разумееце, не было месца беларусам. Сёння, калі мы можам спакойна разгледзець дзейнасць Сямашкі з усіх бакоў, спяшацца не трэба. Магчыма, адкрыецца шмат чаго новага. Каб нам не давялося за хуткія крокі па яго кананізацыі потым расплачвацца...



Паклонны Еўфрасіннеўскі крыж у вёсцы Любань Вілейскага раёна.

**– Украінскі прэзідэнт Пятро Парашэнка звярнуўся да Канстанцінопальскага патрыярха з просьбай узяць пад сваю духоўную апеку ўсе праваслаўныя цэрквы, што дзейнічаюць ва Украіне. Што з гэтага можа атрымацца?**

– Пытанне складанае, бо адна з украінскіх цэркваў належыць да Маскоўскага патрыярхату. Хоць хрысціянства на землі Украіны і Беларусі, як вядома, прыйшло з Канстанцінопаля. Як сведчыць гісторыя, падобныя пытанні вырашаюцца не толькі вернікамі, але пераважна дзяржаўнымі ўладамі. Калі будзе цвёрдая воля ў палітычных колах Украіны, калі будзе жаданне ўкраінскіх царкоўных іерархаў, а таксама ў Канстанцінопальскага патрыярхату, то ніштo не перашкодзіць вырашыць гэту праблему і аб'яднаць царкву і грамадства. Хоць тут усё дужа няпроста. З аднаго боку, можа ўзмацніцца раскол у выпадку атрымання аўтакефаліі Украінскай царквой. З другога – з дапамогай палітычных і адміністрацыйных метадаў усе тры праваслаўныя царквы Украіны могуць аб'яднацца ў адну – пад амафорам Канстанцінопальскага патрыярха. Парашэнка, відаць, бачыць сваю місію ў тым, каб аб'яднаць тры групы праваслаўных вернікаў у адну. Варта нагадаць, што паводле канонаў РПЦ любая царква ў незалежнай дзяржаве можа прэтэндаваць на атрыманне аўтакефаліі.

**– Дык і ў Беларускай праваслаўнай царквы такая перспектыва ёсць?**

– Перспектыва ёсць. Толькі, як сказаў наш мітрапаліт Павел, вельмі далёкая. Мне здаецца, што пытанні царкоўнай самастойнасці залежаць больш за ўсё ад нашай улады. Сёння ж ніхто не сумняваецца, што царква з'яўляецца прыладай уплыву на фарміраванне грамадскай свядомасці ў нашай дзяржаве. Маё асабістае меркаванне: гэты ўплыў павінен сыходзіць з Мінска, а не з Масквы, таму што перад нашымі краінамі – розныя выклікі і праблемы. Пагадзіцеся, што ў невялікай хаце хутчэй можна навесці парадак, чым у вялікім палацы.

**– Ойча Ігар, растлумачце феномен вёскі Рубель, што на Століншчыне. З яе, паводле розных падлікаў, выйшла ад 200 да 300 праваслаўных святароў.**

– Феномен гэты тлумачыцца, на мой погляд, геаграфіяй. У Рубель можна патрапіць толькі з двух бакоў – з Давыд-Гарадка і Лунінца. Гэта такі анклаў, куды не пранікала чужая культура. Там да гэтай пары захаваліся моцныя сувязі паміж хроснымі бацькамі і дзецьмі, паміж стрыечнымі братамі і сёстрамі. Усе яны адзін аднаму дапамагаюць, там усё, нават цяпліцы для агуркоў, робіцца дружнай талакой. Чаго ўжо амаль няма ў іншых рэгіёнах Беларусі. На Століншчыне да гэтай пары захаваліся асаблівыя адносіны людзей да царквы. Там богабаязь і рэлігійная абрадавасць пранікаюць у кожную хату, у кожную сям'ю. Для тамтэйшых людзей святы Раства ці Пасхі, увогуле любое царкоўнае свята – гэта падзея з падзей. Што да такой колькасці бацюшак… Магчыма, нехта марыў і пра хлебную пасаду, калі ішоў у святары. Але паглядзіце, колькі храмаў у 1990-я гады пабудавалі якраз бацюшкі са Століншчыны! Яны не баяліся працаваць, яны да цяжкай працы змалку прывучаны. Але самае галоўнае ў святары – жаданне маліцца.



Айцец Ігар са спявачкай Таццянай Грыневіч-Матафонавай каля паклоннага крыжа.

**– На Вілейшчыне жывуць вернікі розных канфесій, у тым ліку каталікі і пратэстанты. Як вы з усімі знаходзіце агульную мову?**

– Я хрысціянін і павінен сябраваць з усімі, нягледзячы на нацыянальнасці і канфесіі. У Любані цяпер якраз дабудоўваецца касцёл. Найперш я бачу ў чалавеку стварэнне Божае і ніколі не дзялю людзей на праваслаўных і каталікоў, збольшага ж мы ўсе – беларусы-крывічы, у нас адна кроў, значыць, мы ўсе паміж сабой як сваякі. Бог жа адзін. Мы жывём у адной краіне, у нас адна гістарычная спадчына. Калі няма побач касцёла, каталікі прыходзяць замовіць службу па спачылых у царкву. І я як святар не маю права адмовіць.

**– Ведаю, што вы часта наведваеце мясцовыя школы, дапамагаеце арганізаваць там розныя пазаўрочныя мерапрыемствы. Вас аб гэтым просяць настаўнікі ці вы самі праяўляеце ініцыятыву?**

– І просяць, і сам іду. Вяскоўцы летам працуюць ад зары да зары, без выхадных. А як уплываць на душы сваіх прыхаджан, калі яны не могуць прыйсці ў храм? Мне здаецца, праз дзяцей, праз мерапрыемствы ў школах. Дзеці прыходзяць дадому і расказваюць пра пачутае і ўбачанае бацькам. Такім чынам святар мае магчымасць фарміраваць нармальныя адносіны і ўнутры сем'яў, і ўвогуле ў вёсцы.

**– У вас з матушкай Яўгеніяй ажно шасцёра дзяцей! Як вы паспяваеце быць яшчэ і клапатлівым бацькам?**

– Дзякуй Богу, што ў мяне такая шматлікая сям'я! Гэта сапраўдны цуд – адчуваць сябе яе галавой, гэта надзвычай прыемна. Хоць бывае рознае – дзеці сварацца і мірацца. Але ўсё гэта дробязі. Галоўнае – ёсць пэўны маральны стрыжань, духоўныя законы, паводле якіх мы жывём. У нашай сям'і пост для ўсіх абавязковы. Узроставая розніца паміж дзецьмі даволі вялікая – малодшай Вользе 3 гадкі, старэйшай Ірыне – 21. Старэйшыя дапамагаюць малодшым, клапоцяцца адзін пра аднаго. У нас вялікая гаспадарка, мы дзяцей з маленства прывучаем да працы. Ёсць карова, свінні, сабакі, птаства, пчолы. Догляд за імі – абавязак таксама і дзяцей.

**– Вы жывяце на ўскрайку вёскі, фактычна ў лесе. А ці не хочацца вам перабрацца ў горад, дзе і дасягненні цывілізацыі больш даступныя, і прыходы больш шматлікія і багатыя?**

– Я ўсведамляю сябе святаром вясковым. Я тут ведаю ўсіх і мяне ўсе ведаюць. Таму не хацеў бы нічога ў сваім жыцці мяняць, пакуль не пакліча мяне Бог да чаго іншага.

**Міхась СКОБЛА.**

Народная Воля
http://www.nv-online.info
29 МАЯ 2018 г.

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

## Муж пайшоў у дэкрэт – і смяяцца не след

У Беларусі ў адпачынку па догля-дзе за дзіцём знаходзяцца крыху больш за 3 тысячы мужчын. Лічба невялікая з фінансавых прычын – у мужчын большы заробак.

А быў жа некалі як быццам
Пятро звычайным мужыком.
Мог нават часам і пабіцца –
Махнуць "за праўду" кулаком.
Не пазбягаў сустрэч з сябрамі
З нагоды важкае якой:
Яны парой па чарцы бралі,
А піва дык цякло ракой.
Папіўшы кавы,
Лёгкі, жвавы,
На працу ён спяшаўся-бег.
І там ішлі няблага справы –
Быў лепшым ён сярод калег.
"Налева" мог схадзіць таксама
Ад роднай жонкі спадцішка…
Ды зараз іншая праграма –
Як падмянілі мужыка.
А адбылося тое дзіва,
Другім зрабілася жыццё,
Калі "палова" нарадзіла
Пятру крывіначку-дзіцё.
Яно і радасна, і звонка
Адразу ж абудзіла свет…
Пасля таго Пятро – не жонка! –
Пайшоў на тры гады ў дэкрэт.
За гаспадыню быў і няньку:
Ён сам стаяў каля пліты
І гатаваў катлеты, манку –
На тры наяўныя раты;
Хадзіў на рынак, мыў падлогу…
Адкуль жа навык меў такі?
Да гэткай працы, дзякуй Богу,
Яго прывучвалі бацькі.
Раз у двары перахапіла
Пятра гурба былых сяброў.
Яны сабраліся на піва,
Каб разагнаць у жылах кроў.
Схапілі беднага пад пахі
(Хоць ён крычаў: "Няма калі!
Мне мыць патрэбна апранахі!")
І ў бар піўны павалаклі.
У бары толькі куфаль піва
Змог у нутро
Заліць Пятро.
Сябры казалі:
– Што за дзіва?
Раней ты выпіў бы вядро!
Яшчэ і адпускалі жарты:
– Ты зараз баба ці мужык?
Пакуль у ложку трохі варты
Ці з намаганняў – толькі пшык?
Бразготкі, соскі і пялёнкі,
Машына пральная і прас…
Ды гэта ж вотчына для жонкі!
Вазьмі хаця б любога з нас…
Хоць тым насмешкам быў не рады,
Але трываў Пятро спярша.
А потым выбухнуў тырадай –
Стрымацца не змагла душа:
– Ну а куды было дзявацца?
Капейкі мне плаціў завод,
Бо сам банкрут. З такое працы
Няма чаго пакласці ў рот.
Дый сорамна ісці дахаты…
Зарплата ж жончына – будзь-будзь!
А ёй жа, апрача зарплаты,
Яшчэ і прэміі даюць…
Пабыў бы тут яшчэ, магчыма,
Ды апранахі мыць пара…
Пайшоў. І рознымі вачыма
Сябры глядзелі на Пятра:
Выказваў нехта жарты-кпіны
("Пайшоў, як баба, у дэкрэт!"),
А хтось глытаў, як кажуць, сліны
І з зайздрасцю глядзеў услед…

* * *

Жанчыны гадавалі дзетак
Ад першых дзён
Спакон вякоў.
Цяпер бывае і не гэтак…
Я чую голас мужыкоў:
– Вы нас, жанчыны і дзяўчаты,
Заўсёды радуйце рублём!
А будуць большымі зарплаты,
Дык мы і нараджаць пачнём…

### Лета

Лета – не цяпло ды млосць,
Лета – калі грошы ёсць.

### Сучаснае каханне…

Такое ў моладзі каханне:
– Праходзь, кладзіся, прывітанне.

### Надзейная прыкмета

Адну прыкмету назаву,
Прычым нічога я не зблытаў:
Студэнты цягнуцца ў царкву –
Лічы, прыйшла пара іспытаў.

### Сесія

Паўзуць даходы клуба ўніз,
Наведнікам нявесела,
Бо не паказваюць стрыптыз.
А што паробіш? Сесія!

### Біблейскі сюжэт

Сюжэты паўтараюцца здавён,
І Біблія
Дае падказку зноўку.
Напрыклад, Ной.
Ён гойсаў сорак дзён,
Пакуль у рэшце рэшт
Знайшоў паркоўку.

СТОП-КАДР




Учора ў Беларусі адзначылі Дзень памежніка. Напярэдадні ў дзіцячым парку імя Горкага адбыліся святочныя мерапрыемствы. Перад прысутнымі выступілі курсанты Ваеннай акадэміі, кінолагі і іншыя прадстаўнікі Памежных войскаў.

РОЗДУМ

# Чаму на тварах беларусаў мала радасці…

Гадоў дзесяць таму да мяне ў госці прыязджаў бізнесмен з Аўстрыі Віктар Стуканюк. Калі ўвечары за вячэрай я спытаўся пра яго ўражанні ад Мінска, то пачуў:

– Людзі ў вас нейкія засмучаныя, гля-дзяць долу, на тварах мала радасці…

Шчыра кажучы, такоеназіранне сябра мяне засмуціла, а з другога боку – чаму беларусам радавацца?

Чалавек нараджаецца, жыве, памірае… Набывае адукацыю, прафесію, працуе. Жыццёвы прамежак прабягае вельмі хут-ка ды і доўжыцца ўсяго толькі гадоў 60… З вышыні гістарычнага вымярэння гэта імгненне. Што трэба зрабіць, каб гэта гістарычнае імгненне стала па-сапраўднаму радасным і шчаслівым? Адказ да банальнасці просты – сям'я, кватэра, добрая праца, добры заробак, добрая пенсія, надзейныя сябры.

Што маем сёння?

На сямейным фронце – 25-гадовая вай-на. Грамадзянская. Ужо чвэрць стагоддзя кожны другі шлюб скасоўваецца…

Добры заробак, як і пенсія, у марах ды дзяржаўных абяцанках. Нават заро-бак урачам ды настаўнікам у нейкія 500 долараў ужо другое дзесяцігоддзе дзяр-жава не здольна забяспечыць. Кошты ў крамах еўрапейскія. Чалавек аб'ектыўна пастаўлены ва ўмовы выжывання.

Нараджальнасць скарачаецца. Смяротнасць расце. Кожны год на працягу апошніх 25 гадоў колькасць насельніцтва Беларусі скарачаецца прыкладна на адзін раён (20–25 тысяч чалавек).

Асабліва ў цяжкім становішчы аказаліся пенсіянеры. Памер пенсій (100–170 долараў у эквіваленце) пры сённяшніх цэнах на прадукты харчавання – «атамная» атака на людзей сталага ўзросту.

Сёння, як ніколі, востра паўстае пытанне размеркавання дзяржбюджэ-ту. Дзе, у якой краіне свету вы знойдзе-це дзяржбюджэт, у якім 50,74 працэнта выдаткоўвалася б на ўтрыманне дзяржапа-рату? Такога няма нідзе, акрамя Беларусі. А да гэтага давайце дададзім амаль стоты-сячнае міліцэйскае войска ды яшчэ такое армейскае. А іх жа трэба накарміць, адзець, абуць, даць кватэры, узброіць… Зайдзіце ў любую дзяржаўную ўстанову, вас сустрэне міліцыянер, ды і не адзін.

З якога часу ўсталяваўся такі падыход да выкарыстання міліцэйскай службы? Хутчэй за ўсё, з 1937–1938 гадоў. Як і іх выхад на пенсію ў 45 гадоў і атрыманне за кошт дзяржбюджэту павышанай пенсіі. Такога таксама няма нідзе ў све-це. Паліцэйскія ў еўрапейскіх краінах слу-жаць да ўсталяванай агульнай пенсіённай мяжы (60–67 гадоў) і атрымліваюць пасля заканчэння службы звычайную пенсію.

На ўтрыманне «сілавога» блока на бягучы год дэпутаты зацвердзілі 16,33 працэнта бюджэту, што амаль столькі ж, колькі на ўвесь сацыяльны блок: на ахову здароўя насельніцтва – 4,53 працэнта, адукацыю – 4,44, сацыяльную палітыку – 8,98 працэнта. Аб якой «сацыяльна арыентаванай» краіне пры такім раскладзе дзяржбюджэту можа ісці гаворка?

У Беларусі ўсталявалася і актыўна квітнее бюракратычная мадэль кіравання (50,74 працэнта), якая абапіраецца на міліцэйска-мілітарысцкі і тэлевізійны допінг (18,3 працэнта). Вось чаму ў нашай краіне такія маленькія заробкі ў настаўнікаў, выкладчыкаў вышэйшых і сярэдніх спецыяльных навучальных устаноў, музейных супрацоўнікаў, бібліятэкараў, урачоў, медсясцёр, спартыўных трэнераў, артыстаў, сацыяльных работнікаў.

Надышоў час расставіць кропкі ў такім важным пытанні, як узаемастасункі дзяржавы і фінансуемых ёю дзяржаўных установаў адукацыі, аховы здароўя, культуры, спорту і г.д. Вы не задумваліся над сітуацыяй: супрацоўнікі Парку высокіх тэхналогій прапануюць даплачваць выкладчыкам радыётэхнічнага ўніверсітэта, бо добра ведаюць, як «ацэньвае» працу выкладчыкаў Міністэрства адукацыі і колькі зарабляюць на стартапаўскіх праектах уласна «інфарматыкі»?

### Мадэлі сацыяльнай палітыкі

| № пп | Назва сацыяльнай мадэлі | Краіны | Памер бюджэту, які выдаткоўваецца на сацыяльную палітыку (у працэнтах) |
|---|---|---|---|
| 1. | Скандынаўская | Швецыя, Нарвегія, Данія, Фінляндыя | 70 |
| 2. | Паўднёваеўрапейская | Іспанія, Італія, Грэцыя | 50 |
| 3. | Англасаксонская | Вялікабрытанія, Ірландыя, Францыя, Канада | 40 |
| 4. | Кантынентальная | Германія, Швейцарыя, Бельгія, Нідэрланды, Аўстрыя, Францыя (часткова) | 50 |

Для катэгорыі працаўнікоў сацыяльнага блока менавіта дзяржава ў выглядзе Міністэрства адукацыі, Міністэрства культуры, Міністэрства аховы здароўя выступае працадаўцам і зацверджанымі памерамі адпаведных артыкулаў дзяржбюджэту вызначае памеры заробкаў хірурга, прафесара, дацэнта… Якім жа пячорным мысленнем трэба валодаць, каб на ўсю краіну заяўляць: «А за што ім плаціць?» Не, давайце міліцыянерам будзем плаціць, каб яны збівалі бязвінных людзей толькі за тое, што тыя выйшлі на мітынг ці дэманстрацыю.

Можа, гэтага не разумеюць дэпутаты Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага схо-ду ці сенатары? А можа, на іх разуменне ўплывае іх уласны заробак як мінімум у 1000 долараў?

Усталяванне капіталістычных адносін у краінах Еўропы выклікала не толькі супраціў сістэме эксплуатацыі праз забастоўкі, пашкоджанне абсталявання, стварэнне прафсаюзаў, але і паступовае ўдасканальванне сацыяльных стасункаў як паміж працадаўцамі і наёмнымі працаўнікамі, так – і гэта для нас асабліва важна – паміж дзяржавай і грамадствам. Найбольш выразна новыя ўзаемастасункі знайшлі ўвасабленне ва ўсталяванні дзяржаўнай сацыяльнай палітыкі.

Сёння ў свеце існуе шмат мадэляў сацы-яльнай падтрымкі і абароны насельніцтва.

Вось некаторыя з іх (гл. табліцу).

Звярніце, калі ласка, увагу на памер сродкаў, якія выдзяляюцца ў дзяржбюджэ-тах гэтых краін на падтрымку сацыяльнай палітыкі. Уражвае? Дзяржбюджэт Беларусі на сацыяльную палітыку выдаткоўвае ўсяго толькі 8,98 працэнта. Вось вам лозунгі пра будаўніцтва моцнай сацыяльнай дзяржавы і… сумная рэчаіснасць. Колькі можна тры-маць народ за сляпога?

Самай старой і даволі эфектыўнай сярод еўрапейскіх краін лічыцца нямец-кая (яе яшчэ называюць бісмаркаўскай, кантынентальнай) мадэль сацыяльнай абароны насельніцтва. У аснову сістэмы былі пакладзены тры законы, прынятыя ў 90-я гады XIX ст. пры першым канцле-ры Германскай імперыі О.Бісмарку: закон аб страхаванні ад няшчасных выпадкаў на вытворчасці, закон аб страхаванні па хва-робе асоб прамысловай працы і закон аб інваліднасці і страхаванні па старасці.

На працягу ўсяго перыяду існавання дадзеная мадэль мадыфікуецца ў бок павелічэння долі бюджэтнага фінансавання сацыяльнай палітыкі.

Асноўнымі прынцыпамі сучаснай сацыяльнай мадэлі Германіі з'яўляюцца: прынцып абавязковасці сацыяльнага стра-хавання, прынцып самакіравання стра-хавых устаноў, прынцып прафесійнай салідарнасці, прынцып пераразмеркавання і прынцып дапамогі бедным.

Праз 50 гадоў пасля пачатку дзеян-ня нямецкай мадэлі сацыяльнай палітыкі англійскі эканаміст Уільям Бэверыдж прапанаваў уласную. Яна атрымала назву англасаксонскай. Падкрэслім выключную ролю ўплыву на яе ідэй Джона Кейнса аб тым, што дынаміка грамадскай вытворчасці і занятасці вызначаюцца фактарамі плаце-жаздольнага попыту, а гэта значыць, пера-размеркаванне даходаў у інтарэсах сацы-яльных груп, якія атрымліваюць больш нізкія даходы, здольна павысіць грашовы попыт масавых пакупнікоў. Мадэль грунту-ецца на наступных прынцыпах: прынцып усеагульнасці (універсальнасці) сістэмы сацыяльнай абароны – распаўсюджванне яе на ўсіх грамадзян, якія маюць патрэбу ў матэ-рыяльнай дапамозе; прынцып аднастайнасці і ўніфікацыі сацыяльных паслуг і выплат, што выяўляецца ў аднолькавым памеры пенсій, дапамог і медыцынскага абслугоўвання, а таксама ўмоў іх прадастаўлення.

Прынцып размеркавальнай справядлівасці – асноватворны ў дадзенай мадэлі, бо ў дадзеным выпадку гаворка ідзе не пра прафесійную (як у выпадку з мадэллю Бісмарка), а пра нацыяналь-ную салідарнасць. Фінансаванне сямейных дапамог і аховы здароўя ажыццяўляецца з дзяржаўнага бюджэту, а іншых сацыяльных дапамог – за кошт страхавых узносаў наём-ных работнікаў і працадаўцаў. У адроз-ненне ад кантынентальнай гэтая мадэль уключае ў сябе сацыяльнае страхаванне з досыць нізкімі сацыяльнымі выплатамі і сацыяльную дапамогу, якая ў гэтай сістэме мае дамінуючую ролю.

Асабіста мне больш падабаецца мадэль сацыяльнай палітыкі манархічнай Саудаўскай Аравіі. У Саудаўскай Аравіі пражывае 31 мільён чалавек. Галоўнае яе дасягненне – сацыяльная дапамога саудаўцу (карэннаму жыхару) з боку дзяр-жавы ад нараджэння:

нарадзілася дзіця – атрымайце 70.000 долараў;

стварылі сям'ю – атрымайце 64.000 долараў на набыццё кватэры;

адукацыя і медыцына – бясплатныя;

адукацыя і стажыроўка за мяжой – за кошт дзяржавы;

вырашылі адкрыць уласны бізнес – атрымайце адначасовую матэрыяльную дапамогу ў памеры 50.000 долараў;

плата за камунальныя паслугі ды элек-трычнасць – адсутнічае;

вырашылі набыць ва ўласнасць аўтамабіль – 50 працэнтаў яго кошту аплаціць дзяржава;

крэдыты на набыццё аўтамабіля і ква-тэры – беспрацэнтныя.

Шведы на вуліцах Стакгольма добразычлівыя адзін да аднаго, як і датчане ў Капенгагене, як і аўстрыйцы ў Вене…

Спадзяюся, настане час, калі і беларусы на вуліцах сваіх гарадоў будуць радавацца адзін аднаму.

**Васіль РУСОВІЧ, дацэнт, сацыёлаг.**

ЖИТЕЙСКАЯ ИСТОРИЯ

# Бабушка Зина

Этот двор в Полоцке невоз-можно перепутать с другими. Да и найти его легко, потому что он находится недалеко от двух вокза-лов: железнодорожного и автобус-ного. Рядом два рынка, которые буквально запружены покупателя-ми и продавцами. А номера легко-вых и грузовых машин, стоящих плотным кольцом, подтверждают, что торговыми услугами охотно пользуются не только полочане, но и многочисленные гости из дру-гих мест не только Беларуси, но и соседних стран. И это радует жите-лей Полоцка, чем они и гордятся.

Двор, окруженный двумя пяти-этажными и двумя двухэтажны-ми домами, имеет свой мини-парк (кое-кто называет его рощей). Липы, каштаны, дубы, березы, сирень, яблони, груши, в летнее время цветы – все благоухает, как в оранжерее.

Но есть у этого двора одна осо-бая примечательность. Это пожи-лая женщина, которая в один из погожих дней привлекла мое вни-мание своим необычным занятием. Под густым сиреневым кустом она посыпала ячменным зернами зем-лю и делала это так старательно и заботливо, будто засевала свой личный огород. Пройти мимо нее я не мог! Но не успел сказать и двух слов, как нас с воздуха атаковали голуби и галки. Они приземлялись, едва не садясь нам на плечи.

– Смелые! – заметил я, любу-ясь красивыми птицами, которые плотной стаей ворковали у наших ног, артистично кивая своими изящными головками. Отчего лич-но мне стало радостно на душе.

– А чего им бояться своей кор-милицы! – ответила вопросом на вопрос моя собеседница, лицо которой светилось искренностью и благодарностью. И с гордостью добавила: – Я их не только кормлю, пою, но и охраняю.

Не успела Зинаида Никифоровна (мы уже познако-мились) закончить рассыпать зер-нышки, как к нам со всех сторон из-под машин, стоявших во дворе, с громким протяжным мяуканьем побежали кошки всех мастей. Их женщина встретила ливерной кол-басой и кошачьим кормом, а также молоком.

– Так вы и кошек кормите?

– Кормлю всех! – гордо ответи-ла Зинаида Никифоровна опять же с радостной улыбкой.

– Вам только собак не хватает!

– Не волнуйся, – улыбнулась моя новая знакомая, – будут тебе и собаки!

И действительно, из-за угла дома вскоре появилась сильно исхудавшая, сгорбленная в дугу дворняга со втянутым животом. Она смело подошла к нам, всем своим видом умоляя о еде.

– Ну как тут стерпишь? – вздох-нула Зинаида Никифоровна и ста-ла угощать дворняжку лакомством. Откуда ни возьмись появился еще один пес.

Пока птицы, кошки и собаки ели, Зинаила Никифоровна с боль-шим сожалением сказала:

– Беда, мил человек, что многие люди не то что не кормят бездом-ных животных, а запросто выго-няют со двора, а то и безжалост-но бьют их. А ведь если не будет кошек, собак, птиц, так нас же всякая мошкара вместе с крысами одолеет.

– Недавно, – охотно продолжи-ла Зинаина Никифоровна, – я по телевизору смотрела, как в одном американском городке перебили всех бродячих животных, так там столько крыс и мышей развелось, что они забираются в машины и перегрызают провода в моторных отсеках. Вот такой ужас получится, не будь мохнатых наших друзей! Кошек и собак, а также птиц надо подкармливать и беречь, как самих себя!

Минуту-другую помолчав, жен-щина с тяжелым вздохом произ-несла:

– Вот недавно новый жилец нашего дома, Владимир (он мне во внуки годится), сказал, как отре-зал: «Ты, Никифоровна, больше не корми голубей, а то они двор загаживают!..» Я не выдержала и спросила его: «А собаки, которых выводят жильцы наших домов справлять нужду в дворовой траве, они разве не загаживают наш пре-красный двор? Уж собачий помет не сравнить с голубиным! Он как капля в море! Ты, Володенька, без году неделю живешь в нашем доме, а уж так раскомандовался, что мнишь себя чуть ли не «мэром» нашего двора!» «Дура ты старая!» – послышалось в ответ «Да, я ста-рая, а доживешь ли ты с таким характером до моих лет? Ведь кто не любит животных и птиц, тот не любит и людей! Постеснялся бы пожилого человека так незаслу-женно оскорблять!»

Зинаида Никифоровна запла-кала. Я, успокаивая ее, подал ей носовой платок.

…Зинаида Никифоровна Колпакова 27 лет отработала опе-ратором на Полоцком заводе сте-кловолокна. Сейчас она на пенсии. Ей 80 лет. Уже не один год она кор-мит кошек, собак, голубей, галок… На свои деньги покупает зерно, кошачий корм, ливерную колбасу, молоко. Муж ее умер давно. Живет с дочкой Наташей. Чтобы как-то забыть свое большое горе, Зинаида Никифоровна сдружилась с пти-цами, кошками, собаками. Они для нее все добрые и хорошие, как родные! Животные и птицы своей теплотой и энергией подпитывают ее здоровье.

– А теперь, – говорит мне на прощание Колпакова, – пора и самой идти домой на обед, благо дочка уже, наверное, приготови-ла. Поскольку вы, добрый человек, обратили на меня внимание, то, может, откушаете с нами?

Я поблагодарил и любезно отказался, сославшись на заня-тость. И был весьма признате-лен Зинаиде Никифоровне за искреннюю, душевную беседу. Глянул еще раз под куст сирени, под которым мирно спали сытые кошки. Невдалеке в тени лежал уже знакомый мне песик. Бока его выглядели полнее, и шерсть на них уже не дыбилась, а лежала гладко – первый признак сыто-сти и добра. А на крышах домов сидели упитанные голуби и галки, заботливо перебирая друг-другу перышки. Думаю, они благодар-ны бабушке Зине за ее душев-ную заботу. Побольше бы таких людей, как пенсионерка Зинаида Колпакова! Глядишь – и другие дворы наших городов стали бы живее, уютнее, добрее ко всему живому.

**Михаил Иванович ПОТАПОВ,**
**бывший машинист насосных установок очистных сооружений новополоцкого завода «Полимир».**
*г.Полоцк.*

**На фото: автор письма и З.Н.Колпакова (ноябрь 2017 г.).**



ПЕРВЫЕ ЛИЦА

# Президент Литвы строит дом

В конце прошлого года глава Литвы Даля Грибаускайте купила участок земли, на котором намерена построить дом. В нем она планирует поселиться после окончания срока полномочий. Сейчас выяснилось, что материалы для строительства и работа будут стоить примерно 53.984 евро.

По крайней мере такая сумма указана в декларации Грибаускайте, которая была обновлена 22 мая. В ней также сказано, что договор с компанией Mūro ekspertai был подписан 30 апреля.

По данным «Содра», официально в этой компании в марте 2018 года работали 10 человек. Средняя их зарплата составляла 391 евро «на бумаге» – это меньше минимума.

Директор Mūro ekspertai Сергей Пшечук не отрицал, что был заключен договор с президентом, и объяснил, почему в его компании такая низкая зарплата у работников. Однако детали сделки комментировать не стал и не захотел, чтобы его цитировали в статье.

Советник президента Дайва Ульбинайте так прокомментировала заключенную сделку: *«После окончания срока полномочий президент сама позаботится о своем жилье. Все связанные со строительством расходы будут декларированы в установленном законом порядке»*.

Проект будущего дома Грибаускайте подготовила компания Metro architektūra.

*«Стандартный заказчик, только что всем известный. По сути, проектирование ведется, как и со всеми, готовятся несколько вариантов на выбор. Сейчас выбран типовой вариант – среднее между современным и классическим»*, – сказал директор компании Юлюс Билюнас.




DELFI писал, что в конце декабря прошлого года президент Литвы Даля Грибаускайте дополнила свою декларацию, в которой указала, что завершила сделку, связанную с покупкой земли.

Предварительный договор о покупке земли в рамках проекта Bajorų parkas президент заключила в августе 2016 года. Тогда она заплатила за землю аванс в размере 10.500 евро.

28 декабря 2017 года декларация была обновлена, в ней появилась информация о том, что за участок заплачено еще 65.000 евро.

Объект сделки описан так: *«Окончательная плата за участок для строительства дома с лесом»*. Итак, всего президент заплатила за землю 75.500 евро. Размер участка в декларации не указан.

**На фото**. *Проект президентского дома.*

НУ И НУ!

# «Человек-паук» спас ребенка

*Иммигрант из Мали стал настоящим героем во Франции, после того как без страховки забрался по фасаду дома в Париже, чтобы спасти из последних сил цепляющегося за край балкона ребенка.*

Видеозапись чудесного спасения мгновенно разлетелась по соцсетям.

Меньше минуты у Мамуду Гассамы ушло на то, чтобы вскарабкаться на четвертый этаж здания, подтягиваясь с одного балкона на другой, и перехватить четырехлетнего мальчика из рук мужчины, который пытался удержать ребенка от падения, перегнувшись через балконную перегородку из соседней квартиры.

Президент Эммануэль Макрон пригласил 22-летнего Гассаму посетить Елисейский дворец, чтобы лично выразить ему благодарность от лица всех французов.

НА ДАЛОНЯХ ВЕЧНАСЦІ

Анатоль БУТЭВІЧ

# Кітабы



Калі верыць народным паданням і легендам, то Беларусь ці не самая багатая ў Еўропе краіна на схаваныя ў яе нетрах скарбы. Аднак мала каму з шукальнікаў удалося адкрыць гэтыя зачараваныя схроны. Відаць, не мелі яны чароўнай папараць-кветкі ў руках, якая паказвае шлях да тых падземных сховаў.

А вось іншыя багацці пры водбліску той нябачнай кветкі нашым суродзічам адкрываліся ахвотна. Назоў гэтым скарбам – духоўнае заможжа нашых далёкіх і больш блізкіх продкаў, што ў сукупнасці складае багатую і размаітую беларускую культуру.

Каму з нас не даводзілася трымаць у руках кнігі, захапляцца іхнім мастацкім аздабленнем! Гэта датычыць як рукапісных кніг, так і выданняў Ф.Скарыны, С.Буднага, іншых нашых вядомых выдаўцоў. Але заўсёды нейкім арэолам таямнічасці былі ахінуты кнігі, напісаныя мала каму вядомымі іерогліфамі, арабскай вяззю. Яны здаваліся недаступнымі і загадкавымі. І ўжо ніяк нельга было ўявіць, што за мудрагелістым арабскім пісьмом можа хавацца звыклы беларускі тэкст, што ў гэтых хітрасплячэннях чужой графікі зашыфраваны беларускія словы.

Аказваецца, усё гэта існуе рэальна і мае сваю багатую гісторыю. Існуюць рукапісныя кнігі, створаныя на беларускай мове арабскім пісьмом. Называюцца яны Кітабы, або Аль-Кітабы, Ай-Кітабы. Аўтары іх – беларускія татары. Яны звязалі свой лёс з нашай зямлёй яшчэ ў далёкім XIV стагоддзі і цягам 600 гадоў годна і дбайна шчыруюць у агульнай людской супольнасці. За гэты час змяніўся іхні быт, з'іначыўся фальклор, песні, прымаўкі, загадкі. Нават мова стала такой жа, як у беларусаў. Аднак і сваю адметнасць, найперш у рэлігійным жыцці, яны не страцілі.

Пра тое ж сведчаць і Кітабы, гэтыя рукапісныя зборнікі рэлігійнага характару. Ёсць нават беларускі Каран, ці, як завуць яго самі татары, Кур'ан. Гэта самая галоўная свяшчэнная кніга мусульман, дзе сабраны рэлігійныя запаветы, міфы, прававыя асновы ісламу. Таму вытрымкі з яго першачаргова і перакладалі на беларускую мову.

З'яўленне татараў на беларускіх землях звязваецца з часам княжання ў Вялікім Княстве Літоўскім Гедыміна. У 1319 годзе ў час бітвы з Тэўтонскім ордэнам татары складалі ягонае перадавое войска. Але асабліва спрыяльны час наступіў пры Вітаўце Вялікім. Ён, шчыры апякун татараў, прыхільнік хана Залатой Арды Тахтамыша, запачаткаваў татарскія паселішчы на беларускіх землях, ухваляў і падтрымліваў іхняе перасяленне ў Вялікае Княства Літоўскае.

Вялікі князь літоўскі Вітаўт надзяляў татараў ільготамі і прывілеямі. Ён прыраўняў іхніх вядомых людзей да тутэйшых паноў і шляхты, аддаў у спадчыннае карыстанне землі, вызваліў ад падаткаў, спрыяў незалежнасці рэлігійнага жыцця. Дазволіў нават жаніцца з мясцовымі дзяўчатамі. Праўда, мець можна было толькі адну жонку. На гэткія ласкі татары адказвалі ўзаемнасцю, любілі Вітаўта і называлі яго Ваттад, што азначае наймагутны. Яны ахвотна перасяляліся на землі ВКЛ і храбра змагаліся пад штандарамі вялікага князя.

Шмат татарскіх перасяленцаў з'явілася на беларускіх землях пасля паходу ў 1397 годзе Вітаўта за Дон, супраць Азоўскай Арды. А праз два гады ў Лідзе знайшоў прытулак хан Залатой Арды Тахтамыш з дваром і дружынай. Разам з беларускімі харугвамі ў знакамітай Грунвальдскай бітве ў 1410 годзе адваджвалі крыжакоў ад звычкі хадзіць паходамі на славян і татарскія воіны.

Аднак беларускія татары былі не толькі ваярамі. Яны аралі зямлю, станавіліся рамеснікамі, гандлявалі, займаліся тымі справамі, што і мясцовае насельніцтва. Таму ад самага пачатку ўзнікла між імі прыязнасць і ўзаемаразуменне, згода і талерантнасць. Яшчэ і да гэтага часу месцамі буйнейшых аседлішчаў татараў лічацца Іўе, Мір, Навагрудак, Слонім, Ляхавічы, Мядзел, дзе здаўна ў добрай згодзе жывуць яны з прадстаўнікамі іншых народаў.

Пасяліўшыся на беларускіх землях, татары аказаліся адлучанымі ад мацярынскіх традыцый, паступова страцілі сваю мову. Але ў іх захоўваліся кнігі, выдадзеныя па-арабску. Праўда, чытачоў у іх з кожным годам станавілася ўсё менш. Каб далучаць да гэтай духоўнай скарбніцы моладзь, патрабавалася нейкае выйсце. І яно было знойдзена. Арабскія кнігі сталі перакладаць на беларускую мову. Але не беларускімі літарамі, а арабскім пісьмом і, як правіла, рукапісным спосабам. Часам беларускі пераклад рабіўся проста на старонках друкаваных арабскіх кніг.

Рознымі па змесце былі гэтыя кнігі. Але найперш у Кітабах захаваны тлумачэнні малітваў, пастоў, апавяданні з жыцця Магамета і яго прарокаў, апісанні рэлігійных абрадаў і звычаяў. Як і ў іншых арабскіх кнігах, тэкст у Кітабах напісаны і чытаецца справа налева, пачынаецца ўнізе старонкі і ў самым канцы нашых звыклых кніг. Тэкст не мае падзелу на словы, знакаў прыпынку, вялікай літары, прабелаў між асобнымі творамі – суцэльная арабская вязь.

Найбольш багатым на Кітабы было XVI стагоддзе, якое, дарэчы, і для беларускай літаратуры з'яўлялася плённым. А вось з XVIII стагоддзя Кітабы сталі пісацца лацінкай. Аднак і ў гэтых умовах татары не паддаваліся польскай асіміляцыі. Не маючы магчымасці ствараць новыя кнігі, яны перапісвалі даўнія. У іх былі знаёмыя легенды і казкі, паэмы і замовы, рэцэпты лекаў і парады. У іх жыў дух далёкай і ўжо незваротнай першарадзімы. Кнігі захоўвалі маральна-этычныя павучанні для моладзі, вучылі шанаваць бацькоў, гасцей, бедных. Яны змяшчалі матэрыял, разлічаны на карыстанне кожны дзень. Такія кнігі называліся Хамаіл – тое, што носіцца з сабой. Хамаіл быў самай папулярнай кнігай у беларускіх татараў. А яшчэ існаваў Далавар – папяровы скрутак малітваў, які часта клалі ў магілу памерлым.

Тое, што мусульманскія пісьменнікі і перапісчыкі карысталіся беларускай мовай, сведчыць пра яе вялікія магчымасці. Арабскім шрыфтам было найбольш зручна перадаваць асаблівасці нашай мовы. Калі ў афіцыйных дакументах Вялікага Княства Літоўскага ўжывалася старабеларуская літаратурная мова, то ў Кітабах яна была жывой, мясцовай, размоўнай. Аднак былі і пэўныя цяжкасці. Бо ніякіх падручнікаў не існавала. Навыкі пісьма перадаваліся ад бацькі да сына.

ВАС ИНТЕРЕСУЕТ...

*Где сейчас Михаил Саакашвили? Чем он занимается? Когда планирует вернуться в Украину?*

*Многих читателей «Народной Воли» интересуют эти вопросы. Редакция поручила своему специальному корреспонденту в Украине Александру Цынкевичу получить исчерпывающую информацию на сей счет и подробно ответить на вопросы читателей.*

# Михаил Саакашвили:
## вид на жительство – в Нидерландах, квартира – в центре Амстердама

Идет четвертый месяц с тех пор, как один из лидеров украинской оппозиции **Михаил Саакашвили** был схвачен в центре Киева и выдворен в Польшу. Как оказалось, со слов опального политика, в его похищении участвовали сотрудники частной охранной фирмы ближайшего соратника **Петра Порошенко**. Далее на частном самолете, предоставленном одним из олигархов, он был доставлен в Варшаву якобы по процедуре редмиссии. И это несмотря на то, что генеральный прокурор Украины – кум президента Порошенко **Юрий Луценко** – обвинил Михаила Саакашвили в особо тяжком преступлении, практически в государственной измене.

На самом деле – и это юридический нонсенс – во время расследования сама власть вывезла из Украины главного подозреваемого. Что лишний раз подтверждает: нынешние украинские правоохранительные органы фабрикуют уголовные дела против не управляемых властью оппонентов.

Что до Михаила Саакашвили, он сегодня чувствует себя хорошо. Активно занимается политикой. Полон сил и энергии и из-за границы продолжает бороться против коррумпированного режима Украины. Нидерланды предоставили ему вид на жительство. Живет он с семьей в центре Амстердама. Арендует в полуподвальном помещении «двуспальную» квартиру площадью около 65 квадратных метров.

Передвигается по городу на общественном транспорте, но чаще на велосипеде. Его часто посреди улицы останавливают украинские туристы. Он читает лекции на политические темы, принимает украинских и грузинских оппозиционных политиков. Навещает свою тещу в пригороде Амстердама, проводит больше времени со своей семьей. Говорят, что среди голландцев ходит шутка: «*Приехал Саакашвили? Тогда Руттену (премьер-министру Голландии) следует быть осторожнее в своей работе*».



**Михаил Саакашвили с женой и сыном.**

В тихой сытой Европе Михаил Саакашвили не забывает о своих соратниках, подвергающихся репрессиям в Украине. Часто дает интервью украинским и европейским СМИ. Много колесит по Европе, участвует в различных политических мероприятиях. Встречается с влиятельными западными политиками, рассказывает им о сложившейся ситуации в Украине. Недавно он проанонсировал инсайдерскую информацию о том, что осенью некоторые высокопоставленные украинские чиновники, депутаты и олигархи могут попасть под американские санкции. Уже сейчас некоторых из них лишили въездных виз в США.

В данный момент Михаил Саакашвили находится в Польше. Кстати, в Варшаве сейчас проходит весенняя сессия Парламентской ассамблеи НАТО, в которой принимает участие около 500 парламентариев из стран НАТО и стран-партнеров. Так что Саакашвили есть чем там заняться.

3 июня Михаил Саакашвили приглашает всех желающих в Пшемысль, в небольшой польский городок на границе с Украиной. Там в рамках форума состоится презентация новой инновационной программы «**Государство в смартфоне, или Как Украине опередить весь мир**», в рамках которой пройдет слушание его доклада «**Смерть старого государства и будущее Украины**». Михаил Саакашвили расскажет: почему, так и не родившись, умерло новое/старое государство, почему должна все-таки быть построено новая украинская держава, в которой не будет существующих в нынешнем виде СБУ, МВД, Генеральной прокуратуры, парламента, а будет функционировать прямая демократия.

В самой же Украине, несмотря на то, что Саакашвили находится в Европе, продолжают до сих пор оказывать давление на его соратников и их семьи. Его однопартийцев, региональных лидеров жестоко избивают, уголовно преследуют, периодически проводят обыски и допросы. Не гнушаются даже ради получения необходимых показаний против Саакашвили избивать родителей его соратников, находящихся под следствием.

Михаил Саакашвили утверждает, что все эти вопиющие случаи происходят непосредственно с молчаливого одобрения нынешней правящей верхушки Украины. Он считает, что дни нынешней коррумпированной власти сочтены. За границей Михаил Саакашвили проводит регулярные встречи с оппозиционными политиками на предмет консолидации оппозиции в борьбе с нынешним режимом Украины.

В предстоящих весной 2019 года президентских выборах Саакашвили в качестве кандидата участвовать не собирается, но предлагает организовать и провести праймериз среди украинских политиков, неподвластных олигархам. А победителя выдвинуть в качестве единого народного кандидата в президенты Украины.

На вопрос, когда же он вернется в Украину, опальный политик отвечает так: «*Когда я вернусь в Украину? Как только этих подонков, которые захватили власть, народ начнет двигать. Я сам вместе с народом буду их двигать. Будем все эти их органы распускать. Будем устанавливать новую украинскую демократию*».

Михаил Саакашвили сделал важное уточнение для украинской власти о том, что не надо отменять и блокировать поезда, прибывающие в Пшемысль на предстоящий форум. Он не собирается сейчас на этих поездах контрабандным способом возвращаться в Украину. Вернется же он, когда придет время, обычным авиарейсом в ставший для него родным аэропорт Борисполь.

*Киев.*

ЭВРИКА!

# Пять лучших книг за 50 лет

*Специальное жюри Букеровс-кой премии выбрало лучших авторов, удостоившихся этой награды с момента ее основания. Они будут претендовать на награду «Золотой Букер».*

В финальный список вошли пять книг – по одному лауреату из каждого десятилетия с 1969 года, когда был вручен первый «Букер». Среди них:

**«Английский пациент**» (премия 1992) канадца Майкла Ондатже,

**«Волчий зал»** британки Хилари Мэнтел (2009, 2012),

**«Лунный тигр»** (1987) британки Пенелопы Лайвли,

**«Линкольн в бардо**» американца Джорджа Сондерса (2017),

**«В свободном государстве»** (1971) индийца Видиадхара Найпола.

Букеровская премия вручается с 1969 года. До 2014 года приз – 50 тысяч фунтов стерлингов – могли получить лишь граждане Великобритании, Ирландии и стран Британского Содружества. Сейчас на награду могут претендовать писатели из любой страны при условии, что роман был написан на английском языке и опубликован официальным издателем в Великобритании в год присуждения премии.

dour
N°30
11-15 ліпеня 2018
The Chemical Brothers (Вялікая Брытанія)/ Tyler, The Creator (ЗША)/ Mura Masa (Вялікая Брытанія)/ Ben Klock (Нямеччына)/ Black Sun Empire (Нідэрланды)/ Girls in Hawaii (Бельгія)/ Ho99o9 (ЗША)/ alt-J (Вялікая Брытанія)/ Joey Bada$$ (ЗША)/ Nils Frahm (Нямеччына)/ Paul Kalkbrenner (Нямеччына)/ ODESZA (ЗША)/ Jon Hopkins (Вялікая Брытанія)/ BADBADNOTGOOD (Канада)/ Yung Lean (Швецыя)
інфармацыя і квіткі
www.dourfestival.eu
ООО «ИРВИНГА ГРУППА» УНП 191751509
GOGOGO! ASBL г. Дур, Бельгія

Народная Воля http://www.nv-online.info
29 МАЯ 2018 г.

УСПАМІНЫ

# АКУПАЦЫЯ

(чэрвень 1941 – ліпень 1944 г.)



Леанід ЛЫЧ, прафесар, доктар гістарычных навук

*Прысвячаю землякам-магілянам часоў вайны і нямецкай акупацыі.*

*(Працяг. Пачатак у №№31–42.)*

## 35 кіламетраў адмерала – і самавар на стале

Бадай самай сур'ёзнай акцыяй яшчэ зусім маладой мясцовай акупацыйнай улады з'яўляўся праведзены ў адзін з дзён студзеня ці лютага 1942 года збор у насельніцтва каляровых металаў. Да гэтай акцыі давялося далучыць занадта ўжо паслужлівых асоб, праўда, не з ліку магілян. Што такая акцыя павінна будзе праводзіцца, людзям загадзя паведамілі, каб яны, як толькі зборшчыкі ўвойдуць у хату, адразу перадалі ім штосьці з каляровых металаў. Сёе-тое з таго адабралі і мы, але самае каштоўнае, напрыклад, ручкі на ўнутраных дзвярах хаты, тата зняў і прыхаваў. Зборшчыкі засталіся незадаволенымі нашым "дарам" акупантам і сталі шнырыць па ўсіх кутках хаты. Заглянулі і ў шафу. А там з-за таго, што мы як след не дагледзелі, стаяў самавар. Яго з вялікай радасцю ўхапілі і панеслі на вуліцу, дзе стаялі ўжо добра нагружаныя living рознымі паборамі сані. Няцяжка зразумець, які прыгнечаны настрой панаваў ва ўсіх нас. Сёстры Ліда і Ада плакалі наўзрыд. Наступнага дня маці ад кагосьці на вуліцы даведалася, што зборшчыкі павінны былі браць патрэбныя ім рэчы толькі са згоды гаспадароў. Такое пацвердзілі маме і ў валасной управе. Выходзіць, самавар забралі незаконна.

Аднойчы позна ўвечар, калі мы, дзеці, леглі спаць, паміж татам і мамай узнікла сур'ёзная спрэчка, у час якой да нас даносіліся словы: "Не хадзі". – "Пайду. Не заб'юць жа яны мяне за гэта". Ніхто з нас не надаў асаблівага значэння гэтым словам. Затое, калі раніцай прачнуліся і ўбачылі, як тата з відэльцам і чапялою ўходжваецца каля печы, не здзівіцца з гэтага ніяк не маглі, бо такое заўжды рабіла мама. Каб мы не задавалі пытанняў, тата адразу ж патлумачыў:

– Маці пайшла ў Літву, бо нешта нездаровіцца яе бацьку.

Мы паверылі і праз некаторы час уселіся за стол, каб паесці згатаванае татам. Не ведаю, як іншыя, а я на працягу ўсяго дня заўважаў на яго твары вялікі неспакой, асабліва калі надышлі прыцемкі. У гэты час на стале з'явіліся чыгун бульбы ў мундзірах і самы смачны гатунак квашаных грыбоў – таўстушкі, якіх, "дзякуючы" дбайным стараннем цывілізаванага грамадства, не знайсці цяпер у нашым лесе. Павячэраўшы, мы ўчатырох узабраліся на печ, а Ліда з татам пачалі ўходжвацца. Раптам пачуўся скрып брамкі, затым дзвярэй у сенцах і нарэшце тых, што вялі ў хату. Моцна стомленая, з нейкім незвычайным клункам за спінай увайшла ў хату мама.

– Міхась, – пачуўся яе прыглушаны голас, – кідай працу, дапамажы разгрузіцца.

Зняты са спіны клунак мама папрасіла паставіць на лаву і пачала штосьці хуценька вынімаць з мяшка. І тут мы з вялікай радасцю ўбачылі тры дні таму канфіскаваны ў нас самавар. Кінуліся распытваць, як гэта ўдалося зрабіць.

– Будзе яшчэ на гэта час, – пачулі голас таты. – Трэба ж спачатку, каб маці падсілкавалася. Вунь якую адлегласць ёй давялося адмераць.

Хаця ўжо і даволі позна было, нікому з нас не хацелася ісці ў пасцель, бо ведалі, як многа цікавага пачуем ад мамы. Нягледзячы на вялікую стому, яна распавяла пра ўсё бачанае і перажытае.

– Па дарозе да Вузды мяне абганялі мо на чатырох-пяці санях, але ўсе яны былі загружаны да адказу. У Вуздзе вельмі проста аказалася знайсці памяшканне ўправы. Калі зайшла ўнутр і сказала ў прыёмнай, што з Магільнага і па якой прычыне прыйшла ў Вузду, мне тут жа падалі крэсла, каб хоць трохі адпачыла з няблізкай дарогі. Малайчына дзяўчынка! Даведаўшыся, што я не збіраюся ў Вуздзе начаваць, адразу ж павяла ў кабінет да таго немца, ад волі якога залежала, вярнуць ці не вярнуць самавар. Разам накіраваліся ў памяшканне, дзе знаходзіліся забраныя ў насельніцтва прадметы з каляровых металаў, і немец праз перакладчыка сказаў, каб я шукала свой самавар. Характэрныя для яго прыкметы не патрабавалі назваць. На пошукі пайшло дзве-тры хвіліны, і самавар ужо быў у маіх руках. Дамоў адразу не пайшла, бо трэба было хоць трохі адпачыць і сёе-тое перакусіць. Ізноў дзяўчына з прыёмнай управы падала мне крэсла. Вузду пакінула апоўдні. Ад вялікай радасці, што дабіраюся дамоў з самаварам, ногі амаль не адчувалі ніякай стомы. Але каб хтосьці падвёз хоць тры-пяць кіламетраў, была б бясконца рада.

– Ну а цяпер, дзеці, – скамандаваў тата, – дадзім маме адпачыць.

Лёс жа таго шчаслівага і нешчаслівага самавара такі: у самы галодны 1946 год яго абмянялі на два пуды жыта.

## Мясцовая ўлада пашырае свой уплыў

Паступова, неяк непрыкметна для жыхароў пачала разгортваць сваю дзейнасць мясцовая ўлада, створаная паводле прадпісаных зверху стандартаў. Працавала яна ў цесным кантакце з кіраўніцтвам мясцовага калгаса. Гэта найбольш за ўсё яе заслуга, што пад надзейную ахову былі ўзяты ўсе грамадскія будынкі, працавала – праўда, з вялікімі перабоямі з-за страшэннага недахопу матэрыяльных і фінансавых сродкаў – бальніца, удалося ахапіць школьным навучаннем вялікую колькасць дзяцей. Быў пакладзены канец бессістэмнай высечцы будаўнічага лесу. Нарыхтоўваць яго маглі толькі тыя, хто атрымаў на гэта дазвол у валасной управе. Як на дзіва, вельмі снежнай выдалася зіма 1941/1942 года. Праблемы, што ўзнікалі ў звязку з гэтым, таксама спакойна, без крыку, застрашвання вырашаліся пры непасрэдным удзеле мясцовай улады. Яна разам з кіраўніцтвам калгаса пастаралася хоць у самым мізэрным памеры выдаць людзям штосьці на працадні з ураджаю 1941 года. Не існавала асаблівых праблем з зімоўкай калгаснага статку. Жыхарам мястэчка дазволілі па некалькі разоў мяняць сваю карову на калгасную, пакуль не адбяруць такую, якая іх поўнасцю задавальняла б. Такой магчымасцю пакарысталася і наша сям'я, і мы засталіся вельмі задаволеныя зробленым выбарам. Увесну 1942 года акупанты забралі ўсіх калгасных кароў. Многія наракалі на кіраўніцтва калгаса, што яно своечасова не арганізавала забой хоць нязначнай часткі буйной рагатай жывёлы (а такое ж строга забаранілі больш высокія ўлады), з тым каб выдаць трохі мяса людзям. Бальшыня ж з іх не мела такой магчымасці, сядзела на нішчымніцы. У той нялёгкай сітуацыі ёсць і доля віны савецкай улады, якая прыняццем у даваенны час драконаўскіх законаў за кражу сацыялістычнай уласнасці адвучыла людзей замахвацца на калгаснае дабро.

Не ўпускаліся з-пад увагі розныя пытанні па стварэнні ў мястэчку нармалёвых умоў для спакойнага жыцця. Не ведаю, чаму да гэтай справы падключылі і майго тату, бо ў яго ж моцна балелі ногі. Татавымі абавязкамі было вызначаць па чарзе людзей для вартавання вуліц у начны час. Хадзілі яны з трашчоткамі ў руках, палохалі ўяўных зладзеяў. Заказваць людзей на варту даводзілася часцей за ўсё мне, дзякуючы чаму добра ведаў, дзе хто з магілян жыве.

У зімовы час шмат клопатаў ва ўлады з'явілася з вызначэннем, хто ж гэта так густа пракладвае лыжню ў лесе. Распускалі чуткі, што ў першыя месяцы 1942 года ў нашай мясцовасці сустракаліся невялічкія групы партызан з лыжамі на нагах. І ўсё ж лыжныя сляды ў лесе належалі калі не выключна, дык пераважна местачковым хлопцам. Прыдбаныя пры разграбленні пагранічнай камендатуры лыжы, мо як нішто іншае, карысталіся вельмі вялікім попытам з надыходам зімы. Для хадзьбы на лыжах месца, лепшага за лес, нельга было знайсці. Каб начальства спакойна сядзела ў воласці, паступіў строгі загад здаць усе лыжы фабрычнай вытворчасці. Шкада было развітвацца, але што зробіш. Лыжы прымалі ў памяшканні самой воласці. Тут мяне моцна ўразілі сцены, спрэс абабітыя плакатамі пра "вызваленчы" паход войскаў Вермахта. Убачыўшы маю непадробленую зацікаўленасць да плакатаў, прапанавалі пагартаць багата ілюстраваныя часопісы на гэтую тэму. Не адмовіўся, што пасеяла ў душы нават нейкае зерне веры ў справядлівасць нямецкага парадку на заваяванай тэрыторыі. Тады ж яшчэ ў нашай мясцовасці не было праліта і кроплі крыві мірных грамадзян па віне акупантаў. Усё гэта было яшчэ наперадзе і вымералася не кроплямі, а вёдрамі крыві.

*(Працяг у наступных нумарах.)*

ПРЯМАЯ ЛИНИЯ



# Как помочь своим сосудам?

*Почему даже молодым девушкам не стоит увлекаться высокими каблуками? Что делать, если «горят» стопы? С чем могут быть связаны ночные судороги ног? Что делать, если кожа на ногах темнеет?*

*Продолжаем публиковать ответы хирурга медицинского центра «ЛОДЭ» Владимира Павленко на вопросы читателей, которые поступили на «Прямую линию» редакции.*



## Без каблуков и с поднятыми ногами...

**– Добрый день! Мне 39 лет, на ногах сосудистые сеточки. Вены не беспокоят. Для эстетического вида сделала два курса склеротерапии. Интересует вопрос: можно ли носить обувь на высоком и среднем каблуке, на шпильках?**

– Нежелательно. При таких состояниях обувь на среднем и высоком каблуке рекомендуется носить не более двух часов в сутки. Дело в том, что при подъеме стопы мышцы голени работают не в полную силу, нет полного сдавливания мышцы. Чем это чревато? 80–85 процентов венозной крови идет по глубоким венам, и именно эти мышцы, как насос, сдавливают и выталкивают кровь. Если этого не происходит, то частично отток крови переходит на поверхностные вены, в результате чего они расширяются. Если постоянно ходить на шпильках, высоких каблуках, рано или поздно это приведет к варикозу. У тех, у кого есть предрасположенность, – раньше, у кого нет – позже.

**– А если день – на каблуках, а следующий – в кроссовках?**

– Это все равно что спросить, можно ли похудеть, если один день наедаться, а второй – голодать.

**– А танкетка тоже под запретом на целый день?**

– Неважно, какой каблук – шпилька, танкетка. Дело в высоком подъеме. При наличии варикоза не рекомендуется каблук выше 3 сантиметров.

Хотел бы отметить, что в молодом возрасте, когда ноги здоровые, не поражены сосудистыми звездочками, надо избегать постоянного ношения обуви на высоком каблуке. Иначе будут происходить анатомические изменения ахиллова сухожилия, оно будет терять свою эластичность, укорачиваться и в последующем, если по медицинским показаниям пациентке будет рекомендовано отказаться от обуви на высоком каблуке, она не сможет этого сделать. В обуви на низком ходу она будет испытывать постоянный болевой синдром из-за натяжения данного сухожилия и сокращения мышц.

**– Забрасывать ноги вверх, когда сидишь или лежишь, – это профилактика варикоза?**

– Да, и, думаю, вы замечали, что герои голливудских фильмов часто забрасывают ноги на стол. Это своего рода профилактика варикоза: в таком положении улучшается отток крови от нижних конечностей. Забрасывать ноги высоко не следует, достаточно их держать чуть выше уровня сердца.

Контрастный душ (вода должна быть не горячей, а теплой) тоже очень хорошо снимает усталость, тяжесть в ногах, повышает тонус. При склонности к варикозу подходят занятия плаванием – это лучшая профилактика расширения вен и синдрома усталых ног.

## Вены не болят

**– Добрый день! Мне 27 лет, после первых родов появилось огромное количество «звездочек». Работа стоячая, на ногах провожу по 12 часов (столько длится смена). После таких нагрузок очень сильно воспаляется вена и возникает просто дикая боль. Чем можно лечиться и как облегчить боль, уменьшить отечность?**

– Что касается появления сосудистых «звездочек» после родов, это обычное явление, связанное с гормональной перестройкой организма. Зачастую женщины обнаруживают «звездочки» на ногах именно во время беременности, а также после приема контрацептивов или гормональных препаратов, которые назначают при некоторых гинекологических заболеваниях. Вообще сосудистые звездочки чаще появляются у женщин, мужчины такой патологией страдают гораздо реже.



По телефону я не могу определить, что провоцирует боль под коленкой. Это не обязательно может быть вена. Болевой синдром расширенная вена не дает, он появляется только в тех случаях, когда есть тромбоз. А возникать боль может из-за изменений в суставе, при артрозах. Кроме того, вены всегда сопровождают нервные окончания, которые при поражениях позвоночника, седалищного нерва могут вызывать болевой синдром: возникают боли под коленкой, в голени, онемение, мурашки в пальцах. Это проявления чаще всего неврологической симптоматики, а не венозной. Чтобы определить причину боли, вам следует провести диагностику, сделать УЗИ сосудов, электромиографию и проконсультироваться со специалистом.

**– Добрый день! Из Лепеля беспокоят. Полгода назад на ногах – от колен до пятки – появилась сыпь. Дерматолог сказал, что это из-за варикоза, выписал мазь. Я рекомендации выполняю, а сыпь не проходит. На ранках даже кровь появляется.**

– Вены расширены?

**– Да. На одной ноге пару лет назад вену даже удаляли.**

– По телефону сложно определить причины высыпаний. Мне кажется, в вашем случае лечить только варикоз и ждать, что проблема уйдет, неправильно, тем более что рекомендации врача вы выполняете.

Варикоз редко сам по себе вызывает кровоизлияния в кожные покровы (только при запущенном варикозе могут появляться язвочки, ранки, которые кровоточат). Чаще всего такие кровоизлияния возникают на фоне проблем свертываемости крови. Также такие изменения на коже могут быть и при нарушении функции печени. Кровоизлияния на ногах могут появляться и при аутоиммунных заболеваниях, при поражении соединительной ткани. Прежде всего вам надо сдать общий анализ крови, сделать коагулограмму – анализ крови на свертываемость, сдать ревматоидные пробы. Надо провести диагностику и врачебный осмотр.

## Ногу свело

**– Владимир Николаевич, скажите, пожалуйста, чем опасны судороги в ногах? В последнее время они стали беспокоить ночью. Что делать?**

– Есть ли у вас какие-либо хронические заболевании? Проблемы с сердцем? Есть ли видимые вены на ногах?

**– Ничего этого нет. Страдаю только хроническим бронхитом и остеохондрозом позвоночника, есть слабость в ногах.**

– Судороги – одно из проявлений варикозной болезни, они опасны болевым синдромом и разрывом мышц. Если лечить варикоз, то и судороги проходят. Но в вашем случае, скорее всего, судороги вызваны не болезнью вен, а проблемами в позвоночнике. Попробуйте пропить $MgB_6$, думаю, судорожный синдром снимется.

**– Добрый день! Очень беспокоят боли в левом тазобедренном суставе и боли в ногах: они у меня как не свои, даже кожи на ногах не чувствую. Ноги часто отекают, ночью бывают судороги, мерзнут ступни. Принимала нестероидные препараты, никакой пользы. Чувствую, что хуже становится. Что делать?**

– Возможно, болевой синдром возникает из-за поражения артерий либо проблем в позвоночнике. Если у вас есть выраженные вены на ногах, то отеки могут быть из-за них. Но зябкость в ногах, онемение, боли – таких симптомов варикоз не вызывает. В вашем случае, чтобы установить причину болей, дифференцировать отеки, достаточно провести три исследования: УЗИ артерий, УЗИ вен нижних конечностей и электромиографию для определения поражения нервных окончаний в ногах.

**– Моей бабушке за 80, стала жаловаться, что горят ступни ног, иногда даже приходится «гасить» этот огонь холодной водой. Что это может быть и к какому доктору ее надо записать на консультацию?**

– К неврологу, он назначит лечение. Это неприятное состояние не связано с варикозным расширением вен, с сосудами в общем.

**Мария ЭЙСМОНТ.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ

# Адзін школьнік выпісаны, другі – у рэанімацыі

*"Народная Воля" пісала пра страшную трагедыю, якая здарылася 13 мая пад Камянцом: мікраўтобус, які вёз з Польшчы дадому ўкраінскіх падлеткаў, сутыкнуўся з пагрузчыкам "Амкадор". На месцы аварыі загінуў 12-гадовы хлопчык, яшчэ шасцёра дзяцей былі шпіталізаваны. Як яны пачуваюць сябе зараз?*

**Г.Ф.Гаргун.**

*Брэст.*

Днямі з Брэсцкай абласной бальніцы выпісалі аднаго з шасці ўкраінскіх школьнікаў. Хлопчык у суправаджэнні бацькоў выехаў дадому, расказаў журналістам намеснік галоўнага ўрача бальніцы па медыцынскай частцы **Вячаслаў Гаўрыленка.**

Паводле яго слоў, адзін школьнік па-ранейшаму знаходзіцца ў рэанімацыі. Яго стан "цяжкі са станоўчай дынамікай".

У іншых аддзяленнях бальніцы (нейрахірургічным, хірургічным, траўматалагічным і ЛОР-аддзяленні) працягваюць лячэнне чацвёра школьнікаў. Іх стан "сярэдняй ступені цяжкасці, бліжэй да здавальняючага", паведаміў медык.

Як вядома, упраўленне Следчага камітэта па Брэсцкай вобласці распачало справу па ч.2 арт.317 КК (парушэнне правілаў дарожнага руху, што пацягнула па неасцярожнасці смерць чалавека). 42-гадовы кіроўца мікрааўтобуса, жыхар горада Сумы, які перавозіў дзіцячую футбольную каманду, затрыманы.

ПАМЯЦЬ

# Легендарны грасмайстар, высакародны беларус

*Такім быў Віктар Купрэйчык, кумір мноства прыхільнікаў мастацтва шахматнай гульні.*

Я не так і рэдка бачыў яго, нашага найпершага і найбліскучага міжнароднага грасмайстра, чые заслугі дазволілі ўнесці яго імя ў Сусветную залу шахматнай славы; найчасцей бачыўся з ім у Рэспубліканскім цэнтры алімпійскай падрыхтоўкі па шахматах і шашках, калі там ладзіліся турніры. Самавіты і спакойны, неяк па-асабліваму задуменна-засяроджаны, ён міжволі вылучаўся сярод усіх, у тым ліку і самых паспяховых тутэйшых грасмайстраў і выклікаў натуральную сімпатыю. Звычайна перад масавым турнірам, калі ў вялікай зале зашмат мітусні і гаманы, ён займаў далёкае ад натоўпу месца і ў адзіноце чакаў пачатку шахматных баталій. Падысці б, павітацца ды распавесці пра штосьці яму блізкае, прыкладам, пра тое, як прыемна ўражаны я сталічнай школай №45, дзе ён вучыўся, як там шануюць яго і якія там інтэлігентныя настаўнікі і вучні!.. (У тым я пераканаўся, калі мы з Людмілай Несцяровіч, тагачаснай супрацоўніцай рэдакцыі часопіса "Бібліятэка прапануе", завіталі туды, запрошаныя школьнай бібліятэкай на сустрэчу з вучнямі.) Ды лезці ў душу чалавека, не ведаючы, які ў яго настрой, – гэта не па маіх правілах. Я спадзяваўся, што калі-небудзь пашчасціць згуляць з ім партыю ў тым жа РЦАПе, магчыма, у адным з ветэранскіх турніраў, тады не баяўся б выглядаць назойлівым, распачынаючы гамонку…

Цяпер ведаю: Віктар Купрэйчык быў чалавек адкрыты і кампанейскі. І сапраўдныя сябры ў яго былі не толькі з ліку шахматыстаў, пра што сведчаць і журналіст Іосіф Калюта, і сябры СБП Уладзімір Някляеў ды Іван Клімянкоў, які знаўся з Віктарам з далёкіх студэнцкіх гадоў. З тэлефоннай размовы з Някляевым я зразумеў: лёс падараваў яму паўстагоддзя сяброўскіх стасункаў са знакамітым Купрэйчыкам. Ад яго ж я пачуў пра любоў нашай знакамітасці да музыкі і літаратуры і пра тое, што за грошы, выйграныя на адным з ветэранскіх турніраў, Віктар выдаў на беларускай мове кнігу Івана Буніна, "каб любілі нобелеўскага лаўрэата па-беларуску", і што частку грошай перадаў на помнік Рыгору Барадуліну, чые творы, як і Васіля Быкава і Уладзіміра Някляева, ён рэгулярна чытаў.

Я пацікавіўся, ці падтрымаў Віктар Давыдавіч Уладзіміра Някляева ў цяжкі для яго час пасля Плошчы-2010.

– Гэта факт, – адказаў Уладзімір Пракопавіч.

Факты, якія сведчаць пра высакароднасць Віктара Купрэйчыка, мноства. Перад намі паўстае маштабная постаць не толькі славутага шахматыста, а і вялікага БЕЛАРУСА.

Аднак шырокую вядомасць і шчырую людскую любоў яму прынеслі ШАХМАТЫ. Менавіта імя з'яўляліся ягоным жыццём, пра што ён не раз гаварыў, адказваючы на пытанні журналістаў. Я шкадую, што позна адкрыў для сябе геніяльна адоранага Віктара Купрэйчыка з яго яскравай камбінацыйнай гульнёй. Яго творчасць, як правіла, прыгожая і вельмі павучальная, чым павінны напоўніцу карыстацца юныя. Не без прыемнага здзіўлення і захаплення аналізую гульню Купрэйчыка-падлетка з Малісавым у 1963 годзе. Партыя завяршылася ўжо на трынаццатым ходзе. У галандскай абароне Віктар так умела пакараў свайго партнёра за флангавую атаку пры неразвітых фігурах! Яшчэ яркацейшай аказалася партыя Разуваеў–Купрэйчык (1970): у выніку дасціпнай камбінацыйнай гульні нашага адоранага шахматыста пасля дзевяці ходаў высветлілася, што пазіцыя Разуваева безнадзейная. Падобных узораў на рахунку Віктара Купрэйчыка процьма. Ён даволі часта дзеля паспяховай атакі ахвяраваў і пешкі, і моцныя фігуры, іншы раз у адной партыі шоў цэлы каскад ахвяраванняў. Гэтак, у вострыкамбінацыйным стылі, ён мог сабе дазволіць згуляць і, скажам, з выбітным брытанцам Шортам, і з самім экс-чэмпіёнам свету Міхаілам Талем, бо па сваёй прыродзе быў «непапраўным рамантыкам» (словы Элы Харавец, майстра спорту і журналісткі). Часта перамагаў тытулаваных, знакамітых, але часам здараліся і дзіва дзіўнае: ён здаваўся якому-небудзь звычайнаму кандыдату ў майстры. І я быў не раз сведкам такога дзіва.

У ім жыла непераможная любоў да шахмат. Таму, рызыкуючы здароўем (меў групу інваліднасці з прычыны цяжкай хваробы нырак), ездзіў і лятаў у далёкія краіны на турніры: яго запрашалі. Бо цанілі. І любілі.

Ён ладзіў шахматныя конкурсы ў газеце «Знамя юности». Вядома, дзеля росту юных талентаў. І займаўся з перспектыўнымі хлопцамі ў Спартыўнай дзіцяча-юнацкай школе №11. Прыемна ўведаць, што, напрыклад, міжнародны майстар Міхась Нікіценка, які дасягнуў высокага тытулу ўжо ў падлеткавым узросце, – з яго вучняў.

Любоў, якую нёс у белы свет да людзей у сваім сэрцы наш праслаўлены грасмайстар, двухразовы чэмпіён Беларусі, не канула ў Лету, калі яго не стала. Яе энергія несмяротная. Таму журба мая глыбокая з прычыны горкай страты ўраўнаважваецца радасцю ўсведамлення той цудоўнай спадчыны і тых выдатных спраў, высакародных учынкаў, якімі Віктар Купрэйчык пракляў свой ЗОРНЫ ШЛЯХ на нашай зямлі.



**Васіль ЖУКОВІЧ.**

ЗВАНЫЙ ГОСТЬ

# БАРИТОН – это знаковая личность в театре

Быть баритоном, которого в творческий путь успела благословить сама великая Елена Образцова, причем сделала это не кулуарно, а на глазах многомиллионной телевизионной публики, – это, конечно, вытянуть у судьбы счастливый билет. Но старая слава новую любит – и солист Большого театра Илья Сильчуков не стал пользоваться только этим одним «билетом». Да и публика, которая обожает Илью, этого не поняла бы: «Тот самый Сильчуков? Послушаем…» И снисхождения не жди, здесь как раз напротив: к певцу завышенные требования.



Впрочем, я не попадала на выступления Сильчукова, которые огорчали бы. Его плотный, яркий, концентрированный баритон звучит прекрасно. Певец находится в расцвете сил, он совершенствуется. К тому же становится крепким драматическим актером. В последней премьере Большого театра – опере Пуччини «Богема» – партия Марселя, которую исполнил Илья Сильчуков, по-моему, одна из самых лучших во всем спектакле.

**– Жизнь солиста – постоянный кастинг: кого выберет режиссер на постановку, кого дирижер поставит на премьерный спектакль? Конкуренция – вещь полезная, но болезненная. Вы часто испытываете острое чувство ревности?**

– Сказать, что нет, никогда не испытываю, я не могу. Но к этому надо относиться со здоровым чувством реальности: мы, артисты, все разные, а режиссер собирает составы, которые на его взгляд будут более органичны на сцене, чтобы закрепить ту или иную свою мысль. Головой все понимаешь, а сердце…

**– Сердце бьется.**

– Да. И это нормально.

**– Будем считать этот первый вопрос разминкой. А теперь о замечательной премьере оперы «Богема». Спектакль яркий, о нем хочется вспоминать, говорить и обязательно сходить еще раз. Но первое действие, на мой взгляд, все-таки перенасыщено визуальной информацией. Многое отвлекало от музыки и пения. Не перебор ли у постановщиков со сценографией?**

– Мне сложно сказать, я же нахожусь внутри процесса. Да, в спектакле много аллюзий, цитат, метафор. Но работа с режиссером Александром Борисовичем Тителем и его командой была для меня огромным новым опытом. Мне очень нравится жить внутри этого спектакля. Он, как тот монпарнасский Улей, гудит, наполнен жизнью. Так и задумывалось. Художественный Париж перед Первой мировой войной был именно таким гудящим клубком идей и направлений. А именно в этот период времени перенесен сюжет оперы Пуччини «Богема».

**– Я видела, как Титель репетировал: кропотливо, требовательно. Мне тогда, помню, подумалось: он, как кутюрье, – каждый шов ручной работы.**

– Репетировали мы долго и мучительно, но результат того стоит. Я лично не замечал четырехчасовых репетиций и того, что через час мы вновь встречались – на следующие четыре часа. Было интересно, Титель нас провоцировал на личные творческие поиски. И мы с азартом включались в процесс.

**– В роли Марселя вы легки и пластичны. Не во всех прежних своих работах вам удавалось достичь такой органики, но у Тителя вы выглядите очень убедительно.**

– Когда в постановке есть жизнь, есть дыхание, тогда появляется и пластика. А когда ты психологически зажат в рамках мизансцены, не живешь, а идешь от точки к точке, это сразу отражается на образе. Я никогда раньше не пел Марселя, но он стал мне очень близок. Он разный, многоплановый. Главное, есть динамика – от эгоцентризма до раскаяния.

**– Но вообще к этому спектаклю надо быть хорошо подготовленным зрителем.**

– А как сложно всегда оперному певцу! В голове, как у синхронного переводчика, надо держать сразу несколько планов. Ты взаимодействуешь с дирижером, оркестром, и с партнерами по сцене ты должен быть в ансамбле как полноценный драматический актер. Ты перевоплощаешься, живешь, и вдруг на генеральном прогоне на твоем пути появляется… спичка. Обыкновенная спичка, которую надо зажечь в мизансцене, но она – ш-ш-ш – не горит! Отсырела – я не проверил коробок. А музыки остается мало, чтобы пробовать следующие спички, музыка-то движется вперед, и я понимаю, что мизансцена проваливается. Но надо что-то придумать, потому что от спички зависит смысл всего действия. И уже каким-то «пятым планом» импровизирую по ходу, чем же эту спичку заменить, чтобы не пострадал общий ход спектакля...

**– Я, признаться, была так поглощена действом, переживала за судьбы героев так, будто слушала оперу в первый раз. Вот же тайна великого жанра: все условно, а такое полноценное, сильное впечатление!**

– Донатас Банионис говорил: в искусстве надо искать не новое, а вечное. Если надеть пиджак вместо штанов, это будет ново. Но глупо. Что всегда цепляет зрителя? Естественность, искренность.

**– Ваша супруга – певица, и она тоже служит в Большом.**

– Да.

**– Супружеских пар в нашей оперной труппе несколько: у главного дирижера жена певица, у главного режиссера она вообще прима. Семейственность создает напряжение в театре?**

– Еще есть семья Трифоновых – Стас и Диана…

**– И, согласитесь, муж так или иначе несет психологическую нагрузку за свою половинку: какие партии ей дали петь, какие не дали и почему.**

– Я доволен тем, как развивается карьера у Тани. Мы одногодки, но она значительно позже пришла в театр, после рождения двух детей. Тем не менее Татьяна уже спела Барбарину в «Свадьбе Фигаро», Лолу в «Сельской чести», а сейчас задействована в «Саломее», которую ставит главный режиссер Михаил Панджавидзе.

**– А кто помогает смотреть за детьми?**

– Сами справляемся. Младшая Оливка еще в садике. Занимается танцами, поет, рисует. Очень чувствительный ребенок. Старший, Лука, заканчивает 4-й класс музыкального лицея, учится на том же хоровом отделении, где когда-то и я.

**– У вас есть любопытная строчка в биографии: во время учебы в Академии музыки вы были стипендиатом Президентского фонда три года подряд. По-моему, уникальный случай.**

– Я тогда выигрывал подряд череду международных музыкальных конкурсов, за которые, собственно, нас фонд и поощрял.

**– А теперь вы известный солист, много гастролируете, участвуете в зарубежных постановках. Что запомнилось из прошлого года?**

– Постановка «Евгения Онегина» в Польской Национальной опере – я работаю там в труппе как приглашенный солист. Этот спектакль – постановка очень известного режиссера Мариуша Трелински, мы даже ездили с оперой в Дубай. Я работал во втором составе, а в первом составе пел сам Мариуш Квечень, партнер Анны Нетребко в нашумевшем спектакле «Евгений Онегин» в «Метрополитен-опера», где, кстати, пела и наша Оксана Волкова.

**– Это почетно. Квечень – настоящая оперная звезда.**

– И остальные солисты под стать. Крепкая постановка, ей уже около десяти лет, руководство театра порой хочет снять оперу из репертуара, но зритель идет, и спектакль приходится возобновлять снова и снова.

**– Русских не любят, но музыку Чайковского все-таки слушают...**

– Одно дело политика, другое – искусство. Когда есть напряжение в отношениях на государственном уровне, всегда появляется повышенный интерес к искусству оппонента. Скажу вам, что никто не возит по Европе столько опер Чайковского, сколько их возят поляки. Они все-таки в языковом смысле довольно близки к русской культуре и могут блеснуть на Западе хорошим знанием русской оперы.

**– Интересно, вы способны на творческий бунт? Это вообще артисту полезно – взбрыкнуть на дирижера?**

– Спорил, бывало... Но чаще от досады на самого себя. Однажды во Франции участвовал в постановке оперы «Плащ» Пуччини в театре города Монпелье. Дирижер Рани Кальдерон, заметив мое кислое настроение, тут же подошел спросить, что случилось: «Илья, ты не в коллективе...» Я ответил честно: «Недоволен собой, маэстро». Хорошо, когда дирижер так чувствителен. Другой бы сразу в штыки. Я от него для себя тогда многое взял на вооружение. Когда хорошо, он сразу говорил: «Молодцы!» А если плохо, то сразу старался выяснить, в чем дело, не оставлял проблему до следующего утра. И при этом не обижал и не оскорблял человека. Это Аристотелева этика – критика поступка, а не человека.

**– У вас так часто случается: с корабля на бал, с самолета на сцену? Как певец, который должен беречь свои уникальные связки, справляется с перегрузками?**

– Певцы, знаете, часто любят пожаловаться друг другу: как надоели перелеты, как сильно вымотали переезды, эти пятизвездочные гостиницы, эти венские балы и берлинские гала-концерты!.. В эти минуты я сам иронизирую: «Ну иди на завод! Там не хватает рабочих рук! И не надо будет летать через океан на два дня в «Метрополитен» и потом возвращаться». Такие разговоры – просто психологическая разминка. Я благодарю Бога каждый день за то, что могу петь. Перегрузки не смертельные. А моя работа замечательная, петь – это наслаждение. Мало кто может сказать, что у него столько друзей и знакомых по всему миру. А вот у певцов на каждом континенте есть несколько человек, которых хорошо знаешь. Это уникально.

**– Вы такой коммуникабельный человек?**

– Я вообще-то интроверт, мне нужно время, чтобы сблизиться. Сразу не могу: «А давайте вместе и навсегда...» Но тем не менее ты имеешь возможность ездить по миру и смотреть на жизнь людей в других странах.

**– И – «ладно ль за морем, иль худо? И какое в свете чудо?»**

– А я не сказал бы, что люди за границей так уж довольны своей жизнью. В Риме, например, мы с семьей однажды сняли квартиру недалеко от Оперного театра, и каждые выходные наблюдали демонстрации. Вечером в пятницу начинали коммунисты с красными флагами, в субботу под барабаны шли профсоюзы, в воскресенье – активисты ЛГБТ. Требования у всех. И так каждую неделю.

**– А вы не попадали при переездах на многодневные забастовки авиадиспетчеров, машинистов поездов?**

– Однажды чудом избежал этого в Италии. Мне надо было уезжать из города в аэропорт, и я пришел на автобусную станцию заранее взять билеты. Кассир говорит: «Зачем тебе сегодня? Мы уже закрываемся, завтра возьмешь свой билет! Автобусы ходят в аэропорт каждые 15 минут. Приходи за два часа, успеешь». Назавтра я все-таки решил прийти за три часа. Но на автобусной станции вовсю проходила забастовка водителей. Кассир наверняка знал о ней, но специально не сказал, чтобы забастовка была более эффективной: когда сотни рассерженных пассажиров стоят на перронах, требования водителей к работодателям быстрее будут услышаны. Слава Богу, через 40 минут появился какой-то левый шофер, не поддержавший забастовку, и я вовремя добрался до аэропорта.

**– Представляю, какой стресс… Тем более что в жизни вы человек стабильный, правильный, серьезный.**

– Спасибо, хотя критики говорят, что уравновешенная личная жизнь обедняет творческую – а что тогда, мол, на сцену выносить острого, конфликтного, когда все ровненько?

**– Лучше не экспериментируйте.**

– Я с удовольствием буду оставаться в своем русле.

**Елена МОЛОЧКО.**

ФУТБОЛ

# Мінскае «Дынама» працягвае пагоню

*Прайшлі матчы 8-га тура чэмпіянату Беларусі па футболе.*

Вось іх вынікі: “Днепр” (Магілёў) – “Мінск” – 0:0, “Тарпеда” (Мінск) – “Смалявічы” – 0:0, “Віцебск” – “Тарпеда-БелАЗ” (Жодзіна) – 2:0, “Гомель” – “Нёман” (Гродна) – 0:2, “Гарадзея” – “Шахцёр” (Салігорск) – 0:1, “Слуцк” – “Дынама” (Брэст) – 1:1, “Іслач” (Мінскі раён) – “Прамень” (Мінск) – 1:1, “Дынама” (Мінск) – БАТЭ (Барысаў) – 0:1.

А ў мінулую нядзелю адбыліся і тры матчы 9-га тура: “Смалявічы” – “Дынама” (Мінск) – 0:2, “Шахцёр” (Салігорск) – “Гомель” – 2:1, “Прамень” (Мінск) – “Гарадзея” – 1:1.



## Турнірнае становішча

| Каманды | Гульні | Выйгрышы | Нічыі | Паражэнні | Мячы | Ачкі |
|---|---|---|---|---|---|---|
| БАТЭ | 8 | 8 | 0 | 0 | 13–1 | 24 |
| Дынама (Мн) | 9 | 6 | 2 | 1 | 13–4 | 20 |
| Слуцк | 8 | 4 | 3 | 1 | 10–5 | 15 |
| Нёман | 8 | 4 | 3 | 1 | 8–5 | 15 |
| Шахцёр | 9 | 4 | 3 | 2 | 9–5 | 15 |
| Віцебск | 8 | 4 | 2 | 2 | 10–7 | 14 |
| Тарпеда-БелАЗ | 8 | 3 | 3 | 2 | 7–6 | 12 |
| Дынама (Бр) | 8 | 2 | 4 | 2 | 11–12 | 10 |
| Прамень | 9 | 2 | 3 | 4 | 7–12 | 9 |
| Днепр | 8 | 2 | 3 | 3 | 5–7 | 9 |
| Іслач | 8 | 1 | 5 | 2 | 5–8 | 8 |
| Мінск | 9 | 1 | 4 | 4 | 11–12 | 7 |
| Смалявічы | 9 | 1 | 4 | 4 | 6–10 | 7 |
| Тарпеда | 9 | 1 | 3 | 5 | 3–12 | 6 |
| Гомель | 9 | 0 | 4 | 5 | 3–9 | 4 |
| Гарадзея | 9 | 0 | 4 | 5 | 3–9 | 4 |

ПЫТАННЕ – АДКАЗ

# Калі ў Брэст прыедзе Марадона?

*“Нарабіла шуму ў сродках масавай інфармацыі паведамленне, што кіраўніком праўлення брэсцкага футбольнага “Дынама” стаў легендарны аргенцінскі футбаліст Дыега Марадона. Гэта ж мой кумір! Можа, што-небудзь ведаеце, калі ўжо ён прыедзе ў Беларусь?”*

**Віталь ЗАВАДСКІ, г.Маладзечна.**

– На мінулым тыдні Марадона з нагоды ўступлення ў новую пасаду правёў прэс-канферэнцыю. Праўда, адбылася яна не ў Беларусі, а ў сталіцы Аб’яднаных Арабскіх Эміратаў, і беларускіх журналістаў туды ніхто не запрашаў

На прэс-канферэнцыі Марадона адзначыў, што ён упершыню ў сваім жыцці будзе працаваць на гэтай пасадзе. У Брэсце футбольная легенда з’явіцца, магчыма, толькі пасля чэмпіянату свету па футболе, які пройдзе ў Расіі з 14 чэрвеня па 15 ліпеня.

*“Гэта новы выклік для мяне, але я не збіраюся сядзець у кабінеце,* – распавёў Марадона. – *Буду працаваць разам з камандай на стадыёне, буду даваць «Дынама» ўсё лепшае, каб клуб быў больш канкурэнтаздольным. Для мяне галоўнае, што ў футбалістаў ёсць энтузіязм. Я буду працаваць і з маленькімі футбалістамі з акадэміі «Дынама». Што тычыцца камплектавання брэсцкага “Дынама” ў перыяд дазаявак, то для пачатку трэба прыгледзецца да тых, хто ёсць у нашым распараджэнні, убачыць моцныя і слабыя бакі «Дынама». У будучыні можна ўзмацняцца і футбалістамі з ААЭ, з Італіі, з Аргенціны. Вядома, Неймар і Мэсі пакуль занадта далёкі ад нас узровень, але не сумняваюся, што «Дынама» зможа сабраць баяздольны склад”.*

Да слова, прадстаўнік Беларуска-эмірацкага дзелавога саюза Сейф Таджэдзін паведаміў, што ў Брэсце пабудуюць новы стадыён, які атрымае імя «Зайд». Шэйх Зайд ібн Султан Аль Нахаян – прэзідэнт ААЭ з 1971-га па 2014 год. У гэтым годзе яму споўнілася б 100 гадоў.



# Што з Алімбекавай?

*“Заўсёды з увагай сачу за выступленнямі нашых біятланістак (гонкамі з удзелам мужчын прынцыпова не цікаўлюся з-за слабага выступлення беларусаў), а зараз пачуў, што Дзінары Алімбекавай зрабілі аперацыю. Што здарылася?”*

**Андрэй ПАТУПЧЫК, Гродна.**

– Так, чэмпіёнцы зімовай Алімпіяды ў Пхёнчхане па біятлоне **Дзінары Алімбекавай** у Рэспубліканскім навукова-практычным цэнтры траўматалогіі і артапедыі праапервалі левае плячо. Сама спартсменка кажа, што аперацыя была паспяховай, але аднаўленне можа заняць ад месяца да паўгода.



Нагадаем, што 22-гадовая Алімбекава заваявала залаты медаль Гульняў у Пхёнчхане ў эстафетнай гонцы, у якой удзельнічала разам з **Надзеяй Скардзіна, Ірынай Крыўко** і **Дар’яй Домрачавай**.

У сярэдзіне мая спартсменка была ўключана ў склад нацыянальнай зборнай на будучы сезон.

# Ці з’явіцца ў Мінску стадыён для пляжнага футбола?

*“Ці праўда, што да II Еўрапейскіх гульняў, якія пройдуць у Беларусі, пабудуюць новыя спартыўныя аб’екты? Можаце пра іх распавесці?”*

**Сяргей ЗАБЛОЦКІ, Брэст.**

– Ужо 2 чэрвеня закладуць капсулу ў падмурак будучага нацыянальнага стадыёна для пляжнага футбола. Вядома, што ўрачыстая цырымонія адбудзецца на тэрыторыі САК «Алімпійскі», дзе ў чэрвені 2019 года пройдуць спаборніцтвы па пляжным футболе і стральбе з лука падчас II Еўрапейскіх гульняў.

На будаўніцтва стадыёна, які зможа змяшчаць 1,5 тысячы чалавек, плануюць накіраваць каля 400 тысяч еўра. Ужо ў жніўні 2018 года на новай пляцоўцы плануецца правесці першыя афіцыйныя гульні – матчы этапу Еўраліґі.

**Падрыхтаваў Алесь СВЯТЛАНІЧ.**

СІТУАЦЫЯ

# Усе допінг-парушальнікі будуць вяртаць дзяржаве грошы?

Беларускі кіраўнік падпісаў указ №201 “Аб супрацьдзеянні допінгу ў спорце”. Паведамляецца, што дакумент вызначае практычныя механізмы для прадухілення і прафілактыкі ўжывання забароненых у спорце рэчываў і метадаў, а таксама меры адказнасці за парушэнне антыдопінгавых правіл.

Пры дыскваліфікацыі спартсмена або яго персаналу за допінг ім будзе забаронена займацца педагагічнай дзейнасцю ў сферы фізкультуры і спорту. Іх таксама абавяжуць кампенсаваць сумы стымулюючых выплат і пазбавяць дзяржаўных узнагарод, выдадзеных за адпаведныя спартыўныя вынікі.

Шчыра кажучы, сітуацыя даволі неадназначная, бо зараз з’яўляюцца новыя тэхналогіі выяўлення допінгу, скажам, і праз дзесяць гадоў пасля таго, як спартсмен заваяваў медаль і атрымаў за гэта прызавыя. Менавіта такі тэрмін захоўвання допінг-проб. Умоўна кажучы, калі, напрыклад, праз дзесяць год Нацыянальны антыдопінгавы камітэт агучыць, што допінг-проба трохразовай алімпійскай пераможцы Алімпіяды ў Сочы **Дар’і Домрачавай** паказала станоўчы вынік *(не дай Бог, канечне, каб такое здарылася. –* **Аўт.**), то Герой Беларусі павінна будзе пазбавіцца дзяржаўнай узнагароды, і ёй давядзецца вярнуць у бюджэт 450 тысяч долараў.




Беларуская кідальніца молата **Яніна КАРОЛЬЧЫК** у 2000 годзе стала алімпійскай чэмпіёнкай. А ў 2003-м атрымала двухгадовую дыскваліфікацыю за тое, што ў яе арганізме знайшлі забаронены прэпарат кленбутэрол.

*“Ёсць сур’ёзныя анабалічныя прэпараты, з якімі трэба змагацца, а ёсць тыя, што ўжываюць сардэчнікі альбо тыя, хто элементарна прастудзіўся,* – кажа Яніна Карольчык. – *І тым не менш там таксама ўтрымліваюцца забароненыя рэчывы. Таму кожны выпадак павінны разглядаць індывідуальна. Адзін прымае анаболікі конскімі дозамі, а другі – прэпарат мілдранат для сэрца. І пакаранне будзе для абодвух аднолькавым? Многія жанчыны з-за асаблівасцяў арганізма таксама ўжываюць нейкія індывідуальныя лекі. Адным словам, як мне падаецца, будзе вельмі шмат спрэчных момантаў. Таму не трэба ўсіх мераць адной меркай”.*

Спартсменка таксама не разумее, якім чынам чалавек будзе вяртаць прэміяльныя, калі яго дыскваліфікуюць праз 8–10 гадоў пасля пераможнага старту.

*“Праз два дні пасля спаборніцтваў твая проба можа быць чыстая, а праз восем год – ужо не. Гэта ж поўны абсурд!* – **дадае лёгкаатлетка.** – *Таму барацьба з допінгам – гэта патрэбная справа, але каб не наламаць тут дроў”.*

У цэлым згодны з Янінай Карольчык і галоўны трэнер нацыянальнай каманды па цяжкай атлетыцы **Віктар ШАРШУКОЎ.**

*“Гэта вельмі далікатная тэма,* – кажа Віктар Яўгенавіч. – *Зараз вельмі шмат прэпаратаў, якія спартсменам практычна нічога не даюць, але за іх усё роўна дыскваліфікуюць. І такіх прэпаратаў – некалькі тысяч! Я згодны, што некаторыя патрэбна катэгарычна забараніць. Але ж у спісе забароненых і супрацьпрастудныя лекі. Атрымліваецца, што нават лячыць спартсмена нельга, бо ў любы момант яго могуць праверыць і чалавек апынецца ў статусе допінгавага парушальніка з усімі наступствамі. У 90 працэнтаў сіропаў ад прастуды уваходзіць эфедрын альбо кленбутэрол, за што, дарэчы, алімпійская чэмпіёнка Яніна Карольчык і атрымала двухгадовую дыскваліфікацыю”.*

Паводле слоў трэнера, 55 працэнтаў допінгавых парушальнікаў у свеце трапляюцца менавіта на такіх прэпаратах.

*“Мы з федэрацыяй і Міністэрствам спорту даўно змагаемся з допінгам,* – адзначае Віктар Шаршукоў. – *Жыццё прымушае, бо цяжкаатлеты заўсёды знаходзяцца пад пільнай увагай допінгавых служб. І калі ў нацыянальных зборных сітуацыя знаходзіцца пад кантролем (там працуюць высокакваліфікаваныя трэнеры і ўрачы), то ў рэгіёнах яшчэ ёсць праблемы. Але і іх спрабуем выправіць”.*

**Алесь СІВЫ.**

КРЫЖАВАНКА

# Дзе ў нашы дні можна набыць БЧБ-сцяг, «Пагоню» ці вышыванку

**Symbal.by** (“Сымбаль Бай”) прадае разнастайныя рэчы, якія варта мець беларусу: сцягі, кнігі беларускіх класікаў і сучаснікаў, торбы і аксесуары, вышыванкі і адзенне з арнаментам, гербам ды іншымі нацыянальнымі сімваламі. Усё вельмі зручна. Можна паглядзець і абраць любы тавар: або ў краме на ***праспекце Машэрава, 18*** (г.Мінск), або праз інтэрнэт-сайт ***Symbal.by***. Дастаўка магчыма ва ўсе кропкі свету!

Штодня ў краму Symbal.by звяртаюцца дзясяткі беларусаў, неабыякавых да нацыянальнай гісторыі і культуры. Кажуць: хочацца часцей бачыць родную сімволіку побач з сабой або падарыць якасны беларускі сувенір замежным сябрам.

## Як атрымаць зніжку?

Разгадаўшы крыжаванку, вы атрымаеце промакод на зніжку ў **10%**.

Зніжка распаўсюджваецца на ўвесь асартымент крамы ***Symbal.by***.

Промакод будзе дзейнічаць да 15 ліпеня 2018 года.

Каб атрымаць зніжку, трэба ўвесці разгаданы промакод пры замове на сайце ***Symbal.by*** (без прабелаў) або сказаць расшыфраваную фразу прадаўцу ў краме на ***Машэрава, 18***.

**Прыемны бонус**! Калі вы прыйдзеце ў краму з гэтай крыжаванкай (нават не разгаданай цалкам), то атрымаеце падарунак ад **Symbal.by**. А таксама даведаецеся правільныя адказы на ўсе пытанні крыжаванкі.

**Па гарызанталі:** 2.Выбітны **палкаводзец**, што кіраваў пераможнай бітвай пад Оршай у 1514 годзе. 4.**Слова**, што ў старабеларускай мове азначала аратая ці земляроба. 7.**Чыгуначная станцыя** ў сучасным Дзяржынску, пра якую спяваў гурт “Бонда”. 9.Гэтым мілагучным **словам** беларусы называюць Венеру. А яшчэ так завецца вядомы айчынны брэнд. 10.Беларускі **музыка**, вядомы як выканаўца песень “Аргентынскае танга”, “Бывайце здаровы”, “У нашых снах”. 12.**Прадмет вупражы**, які надзяецца каню на галаву. 13.**Што** ў савецкія часы размяшчалася на тэрыторыі Лідскага замка? 14.**Міністр асветы** ва ўрадзе БНР, бургамістр акупаванага Мінска падчас Другой сусветнай вайны. 16.**Прозвішча** вядомых братоў Антона, Івана і Стэфана, выбітных дзеячаў беларускай палітыкі. 17.**Вялікі князь літоўскі**, задушаны ў падзямеллі Крэўскага замка. 18.**Краіна**, сталіца якой у беларускай мове азначае “моцнае жаданне чаго-небудзь”. 19.**Прозвішча** галоўнага героя рамана У.Караткевіча “Каласы пад сярпом тваім”.

**Па вертыкалі:** 1.“Толькі ў сэрцы трывожным пачую за краіну радзімую жах…” – хто **аўтар** гэтых радкоў? 2.**Вялікі князь**, вядомы паходамі на Маскву ды пашырэннем межаў ВКЛ. 3.**Мінеролаг** з Гродзеншчыны, абвешчаны нацыянальным героем Чылі. 5.**Дзеяч**, які ўзначальваў паўстанне, сімвалічна адлюстраванае на кубку (малюнак 1). 6.Беларускі **палітык**, які ў 1991 г. падпісваў Белавежскія пагадненні. 8.**Герб**, адлюстраваны на значку з малюнка 2? 11.**Прозвішча**, якое носіць востраў-прывід у Паўночным Ледавітым акіяне. А таксама беларускі палітык Андрэй Алегавіч. 15.**Аповесць** Васіля Быкава, якая да цэнзуравання мела назву “Ліквідацыя”. Цяпер гэтую кнігу без цэнзуры можна набыць у ***Symbal.by***, у інтэрнэце або ў краме на ***пр.Машэрава, 18*** (г.Мінск).

**Крама Symbal.by працуе з 10.00 да 20.00 без выхадных.**




ИП Белоус П.Н., УНП 691764397

# КРЕМ «СУСТАРАД»

## от боли в суставах, при радикулите, артрозе и артритах

***«СУСТАРАД»*** – натуральный, целебный, органический крем интенсивного глубоко проникающего действия на основе клеток пантов алтайского марала. Также в состав крема входят млечные соки алтайских лечебных растений. Состав подобран так, что его ингредиенты усиливают действие друг друга, а в результате получается хороший лечебный и болеуспокаивающий эффект.

Большим достоинством крема ***«СУСТАРАД»*** является его быстрое действие. Регулярное применение (1 раз утром и 1 раз вечером) ***«СУСТАРАДА»*** в течение одного-полутора месяцев обычно приводит к полному исчезновению болей в суставах и их оздоровлению. Одной банки достаточно на полтора-два месяца. Сейчас много работы на дачных участках. ***«СУСТАРАД»*** снимет последствия нагрузок с вашей опорно-двигательной системы, позвоночника, суставов рук.

***«СУСТАРАД»*** можно купить в магазине ***«Мир здоровья»*** по адресу: **ул.Козлова, *8***. Тел. **(017) 337-35-17**.

По Беларуси крем ***«СУСТАРАД»*** можно заказать наложенным платежом по тел.:

**8029 234 43 73 МТС,**
**8029 325-71-70 Vel.**

Сертификат соответствия № РОСС RU. 0001.511656. до 31.10.2020. ТС. № RUД-RU. АЕ 96. В. 01459 до 22.06.2018. ИП Зильбург Г.В. УНП 191018046.

**Передвижной приемный пункт (ППП) вторсырья.**
**Velcom 8-029-191-11-87.**

ИП Лахаданов В.М. УНП 192680247 свидетельство от 21.07.2016.

ДУА «Сярэдняя школа №8 г.Барысава» інфармуе пра магчымасць набору ў 2018/2019 навучальным годзе вучняў у 1-ы клас **З БЕЛАРУСКАЙ МОВАЙ НАВУЧАННЯ.**

Прыём дакументаў з 12 чэрвеня да 28 жніўня 2018 года.

Дырэктар школы Дзмітрыева Наталля Уладзіміраўна, тэл. 93-15-60.

Тэлефоны бацькоў, зацікаўленых у адкрыцці беларускамоўнага класа:

**Вэлком: 8(029) 117-66-90 Сяргей,**
**МТС: 8(033) 355-05-82 (Viber) Таццяна.**

**Адрас рэдакцыі: 220030 Мінск, вул.Энгельса, 34а.**
**Прыёмная: тэл./факс (017) 328-68-71.**
**Рэкламны аддзел (017) 328-66-09.**
nvonlineinfo@gmail.com http://www.nv-online.info

**Падпісныя індэксы:**
**63222 – для індывідуальных падпісчыкаў,**
**632222 – для прадпрыемстваў і арганізацый.**

**Заснавальнік і галоўны рэдактар Іосіф Паўлавіч СЯРЭДЗІЧ**




Паколькі ў рэдакцыі няма магчымасці рэцэнзаваць і вяртаць нявыкарыстаныя матэрыялы, яна пакідае права ўступаць у перапіску за сабой. За інфармацыю, размешчаную ў рэкламных аб'явах, рэдакцыя не адказвае. Могуць друкавацца матэрыялы, у якіх пазіцыя аўтараў не падзяляецца газетай. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі сродку масавай інфармацыі №947 ад 6 студзеня 2010 г. выдадзена Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь (пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі №224 ад 6 сакавіка 2000 г.). Надрукавана ў друкарні дзяржаўнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Мінск, пр. Незалежнасці, 79. Падпісана ў друк 28.05.2018 у 17.00. Аб'ём 4 друк. аркушы. Тыраж 23 105 экз. Заказ № 1616.

*«Народная Воля»*
в Facebook *www.facebook.com/nv.online.info*
в Vkontakte *www.vk.com/nvonlineinfo*